© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 40 (1889) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 4 КАСТРЫЧНІКА 1992 г. ЦАНА 2000 зл.



*Сёння радуюцца неба і зямля. На родную Беластоцкую зямлю вяртаюцца мошчы святога Мучаніка-Дзіцяці Гаўрыіла Заблудаўскага.*

**Рэпартаж „Вяртанне святых мошчаў" чытайце на стар. 5.**

************************************************************************

## „БЕЖАНЦЫ"

Летам 1915 года немцы пераламалі расейскі фронт на тэрыторыі Польшчы і сталі хутка маршыраваць на ўсход. Расейскі штаб меркаваў прыняць тактыку 1812 года /пакідаць ворагу толькі спаленую зямлю/ і спачатку нават пачаў яе рэалізаваць. Абазначала гэта, што людзей і ўсё, што толькі ўдалося б ім узяць з сабою, трэба было перакінуць далёка за фронт, а будынкі спаліць. Каб выканаць такую аперацыю трэба было ў нейкай ступені пераканаць грамадства або салідна яе перапалохаць. На першы варыянт не хапала часу, тады прыдумалі распаўсюджваць інфармацыі пра зверствы нямецкіх жаўнераў у адносінах да "рускага-праваслаўнага" народа. У кожнай праваслаўнай вёсцы царскія эмісары даказвалі, што немцы рэжуць, гвалцяць, мучаць мірнае насельніцтва і, каб пазбегчы такога кашмару, трэба ўцякаць у глыб Расіі.

Сярод праваслаўных жыхароў Беласточчыны ўсё закіпела. Неўзабаве сотні калонаў з вазоў на драўляных колах рушылі на ўсход, везучы невялікую частку дабра, накопленага пакаленнямі. Найчасцей яшчэ не паспелі выехаць апошнія жыхары, калі вёска пачынала гарэць. Зямля аставалася без гаспадароў, зарастала зеллем і хмызняком. На тэрыторыі ўсходняй Беласточчыны дзе-нідзе асталіся толькі каталікі, а ў мястэчках - яўрэі.

У першы перыяд гэтай абсурднай вандроўкі, ніхто асабліва не наракаў. Адны трапілі ў Сібір, дзе дастаткова было зямлі і хлеба. Іншыя папалі над Волгу, дзе сярод багатых і працавітых казакоў таксама было някепска. Найгорш атрымалася тым, якія апынуліся ў вялікіх прамысловых цэнтрах Расіі. Там ужо на пачатку 1916 г. пачынаўся кашмар. Эмігрантаў з захаду імперыі расейцы прынялі як сваіх - "рускіх".

Большасць сялян, якія выехалі з Беласточчыны, упершыню пакінулі сваю зямлю. Для большасці з іх свет да гэтай пары зводзіўся да найбліжэйшай ваколіцы. І хаця на працягу дзесяткаў гадоў царская дзяржава трактавала іх як расейцаў, неўзабаве яны пераканаліся, што знайшліся ў іншай цывілізацыі. Іншая была мова людзей, сярод якіх прышлося ім жыць, іншая мараль, іншыя народныя абрады, іншыя адносіны да дзяржавы і рэлігіі.

Жыхары Беласточчыны, адарваныя ад сваёй зямлі, раскіданыя па тэрыторыі ўсёй Расіі, знайшліся ў сферы розных палітычных і рэлігійных уплываў. Некалькі гадоў пазней, калі вярнуліся яны на Бацькаўшчыну, часам у адной вёсцы побач праваслаўнага веравызнання паяўлялася 5-7 нейкіх экзатычных абрадаў.

У канцы 1916 г. наступіў поўны развал расейскай эканомікі, анархія ў арміі, невыносныя ўмовы штодзённага жыцця, а ў след за тым рэвалюцыйнае шаленства і бясконцыя злачынствы бальшавікоў. Дзе ў той час не было нашых "бежанцаў" - у чырвонай і белай арміі, у бандах Махно, сярод чэкістаў і разбэшчанага люмпу, але найбольш было іх сярод паміраючых ад голаду і тыфу.

Расейская рэвалюцыя развaліла ўвесь маральны парадак, які існаваў у гэтым грамадстве ад стагоддзяў, знішчыла ўсе аўтарытэты. Дзве асноўныя апоры таго парадку - улада і царква - перасталі існаваць. Ад тых, што перажылі рэвалюцыю і вярнуліся назад, можам даведацца аб такіх жудасных падзеях у Расіі, што валасы дыбарам становяцца. Канібалізм, голад, тыф, зверствы, кроў, слёзы і трупы, трупы, трупы... Тым, што яшчэ ў жывых засталіся, не было іншага выхаду, як уцякаць з таго пекла. Вяртанне на родную зямлю было для большасці сапраўднай адысеяй. Пераехаць нярэдка тысячы кіламетраў, дзе амаль поўнасцю перастаў існаваць транспарт, дзе за скарынку хлеба маглі б забіць звычайныя, галодныя людзі, дзе кожнай правінцыяй кіравала іншая ўзброеная банда, гэта сапраўдны гераізм. Такую цяжкую дарогу змаглі перажыць толькі маладыя і здаровыя людзі. Сваіх бацькоў часта пакідалі яны каля Саратава, Масквы, Царыцына, Смаленска. Над іх магіламі святар не

*Працяг на стар. 8*

## „СВАЕ" ДУМАЮЦЬ ПРА СЯБЕ

Інстытут літаратурных доследаў Польскай акадэміі навук, Ягелонскі універсітэт і Польскае гістарычнае таварыства арганізавалі навуковую сесію „Інтэграцыя Заходняй Еўропы — Дэзінтэграцыя Усходняй Еўропы", прысвечаную нацыянальным і этнічным пытанням. Сесія праходзіла ў двух этапах: 15—16 верасня ў Варшаве і 18—19 верасня ў Кракаве. Варшаўская частка называлася „Іншыя сярод сваіх" і, фармальна, датычыла нацыянальных меншасцяў. Спадарожнічала ёй выстаўка фатаграфій у Музеі незалежнасці. Здымкі — ад 1961 да 1991года — былі сабраны ў выніку конкурсу, аб'яўленага рэдакцыямі „Polityki", „Przekroju" і „Gazety Wyborczej".

„Выстаўка „Іншыя сярод сваіх", гэта спроба паказаць культурную спадчыну іншых грамадскасцяў, — пішуць арганізатары, — якія, жывучы з намі ў адной дзяржаве, прычыніліся да пабудовы супольнай бацькаўшчыны. (...) Дадзены быў нам, можа толькі ў розңай ступені, той самы лёс. Пасля II сусветнай вайны, хаця змяніліся межы, „іншыя" засталіся з намі. На працягу апошніх 45 гадоў прапагандаваўся тэзіс, што Польшча — краіна адной нацыі. Не была гэта і не ёсць праўда. Таму з'явілася ідэя конкурсу, выстаўкі і сесіі".

Ідэя, безумоўна, высакародная. Горш было з яе ажыццяўленнем. Самая выстаўка была нават цікавая, асабліва яе фрагменты, прысвечаныя малым грамадскасцям — караімам, мусульманам, стараверам. Уражвалі здымкі крывавых пагромаў яўрэяў. Можна было пабачыць таксама больш лагодныя — на шчасце — канфлікты з нядаўняга мінулага: польска-украінскі за касцёл у Пярэмышлі і польска-беларускі падчас самаўрадавых выбараў у Бельску-Падляшскім.

У экспазіцыі, прысвечанай беларусам найбольш было здымкаў з Грабаркі і „Басовішча". Аднак, наведвальнікаў выстаўкі было няшмат, хаця варшаўская прэса пісала пра яе даволі многа.

У сесіі прымалі ўдзел такія знакамітасці гуманітарных навук, як праф. праф. Януш Тазбір, Мар'я Янён, Марцін Куля. Прачыталі яны вельмі цікавыя даклады пра культуру на

*Працяг на стар. 2*

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ, ШТО...

Жыхары адной з беластоцкіх вёсак прагналі групу гараджан, якія вудзілі рыбу ў "іхнім" возеры. Рыбаловам не дапамагла нават паліцыя. Вяскоўцы паказалі дакумент, з якога вынікала, што возера тое падараваў ім цар напрыканцы мінулага стагоддзя.

*/Polityka, nr 37/*

І як тут не спамянуць цара добрым словам?

* * *

14 верасня "Салідарнасць" з Рэгіёна Мазоўша арганізавала маніфестацыю ў Варшаве. Перад Белведэрам некаторыя крычалі: "Precz z żydowską marionetką!" i "Wychodź, zdrajco!", а перад Сеймам - "Chcemy posłów nie osłów!". Перад будынкам Рады Міністраў маніфестанты пакінулі транспарант: "Gdy nie dacie robić Stara, spotka was surowa Kara". Традыцыйна былі выкрыкі "Precz z Wałęsą!".

/Паводле *Gazety Wyborczej, nr 217*/

* * *

Шведская паліцыя арыштавала польскага пасла з КПНу, які спрабаваў увезці 19 кардонак цыгарэтаў /дазволена толькі адну/. Пасол будзе асуджаны шведскім судом. На допыце ён тлумачыў, што цыгарэты прывёз не на продаж, а каб рабіць падарункі шведскім паслам і прафсаюзнікам.

/Паводле *Gazety Wyborczej, nr 217*/

Хацеў частаваць шведаў, але, здаецца, гэта яны яму дадуць прыкурыць.

* * *

У красавіку г.г. з карціннай галерэі ў Львове былі ўкрадзены каштоўныя палотны /між іншым, карціны польскіх мастакоў Матэйкі і Гротгера/. Падчас нападу былі забітыя два працаўнікі галерэі. У жніўні, як падае Gazeta Wyborcza /nr 218/, украінская міліцыя схапіла аднаго з удзельнікаў нападу ў Варшаве і паліцыя вывезла яго для суджэння на Украіну. Польская паліцыя нічога пра гэта не ведае, а Міністэрства ўнутраных спраў усё гэта лічыць выдумкай журналістаў.

Скандал, скандалам, але ж паліцыйныя статыстыкі злоўленых злачынцаў падскочаць на адно "ачко" ўверх?

* * *

У трох беластоцкіх штодзённых газетах з "уікэнда" 19-20 верасня г.г. мы нічога цікавага не прачыталі, аб чым паведамляем з пэўнай маркотай, бо ж заплацілі за іх 9500 злотых агулам...

* * *

А ў панядзелак /21 верасня г.г./:
Jeżdżąc z Radio Taxi 919 dostaniesz za darmo "Gazetę Współczesną".

*/Gazeta Wspolczesna, nr 183/*

Вось жа парадавалі чалавека! Лепш праехацца на аўтобусе, а тое, што застанецца ў кішэні, хопіць на паўгадовую прэнумарату "Нівы".

* * *

Pierwsze efekty zapoczątkowanych w czerwcu br. kontaktów polsko-białoruskich w sprawie tranzytu białoruskich towarów przez polskie porty, to ok. 100 tys. ton ładunków, jakie do końca sierpnia przeszło przez Gdansk i Gdynie. /.../ Białoruski tranzyt jest kąskiem, o który warto zabiegać. W ubiegłym roku białoruski eksport i import drogą morską wyniósł 16 mln ton towarów. Większość tej masy ze względów koniunkturalnych ciąży ku portom polskim. Znajdują się one bliżej i są sprawniejsze, bardziej uniwersalne od bałtyckich portów Rosji, Litwy i Łotwy, natomiast Ukraina, nasz najpoważniejszy potencjalnie konkurent do białoruskiego tranzytu, nie przystąpiła do porozumienia o bezcłowej wymianie towarów między krajami Wspólnoty Niepodległych Państw.

*/Nowa Europa, 15.09.92/*

* * *

Pozytywnym efektem zakończyła się batalia o likwidację restauracji "Zabłudowianka" w Zabłudowie /.../, która dotychczas okupowana była niepodzielnie przez hordy miejscowych chuliganów. Można tam było przeżyć mocne wrażenia...

*/Z Zabłudowskiej Ziemi, nr 5/*

Шкада... Цяперака ўжо аніякіх уражанняў у Заблудаве не будзе - хіба што мясцовых кагорты аблюбуюць сабе невялічкі парк, які насупраць былога рэстарана...

## З мінулага тыдня

**У жніўні ў Міністэрстве замежных спраў узгадняліся справы адкрыцця консульстваў Рэспублікі Беларусь у Беластоку і Гдыні і Рэчыпаспалітай Польскай у Гродне і Брэсце.** Пасол РБ у Польшчы Уладзімір Сянько, які прабываў у Беластоку на ўрачыстасцях перанясення мошчаў св. Гаўрыла, цікавіўся памяшканнем для будучага пасольства. У гэтай справе размаўляў ён з прэзідэнтам горада **Лехам РутКоўскім** і агледзеў некалькі прапанаваных будынкаў. Пасол сустрэўся таксама з беластоцкім ваяводам **Станіславам Пруцісам.**

**Немцы перададуць сто мільёнаў марак на кампенсацыі для яўрэяў,** якія праследаваліся ў час II сусветнай вайны. Тыя, што прабывалі шэсць месяцаў у канцэнтрацыйным лагеры або васемнаццаць месяцаў у гета, атрымаюць па пяцьсот марак у месяц.

**Георг Брылька - пасол у Сейм з клуба нямецкай нацыянальнай меншасці** адмовіўся ад пасольскага мандата. Сейм амаль аднагалосна прыхіліўся да яго рашэння. У нямецкім клубе ў далейшым будзе сем дэпутатаў. Згодна выбарчаму палажэнню мандат пасла Брылькі атрымае чарговы кандыдат са спіска нямецкай меншасці - **Эдвард Фляк.**

**На пасяджэнні сеймавай камісіі канстытуцыйнай адказнасці Войцех Ярузельскі** заявіў, што ўсю адказнасць за ўвядзенне ваеннага становішча бярэ на сябе. Генерал сказаў, што ваеннае становішча "ў крайне небяспечнай сітуацыі было, на жаль, неабходнае. Было ратаваннем перад нацыянальнай трагедыяй".

**Хрысціянска-нацыянальнае аб'яднанне /ZChN/** запрапанавала візы для грамадзян Румыніі і краін былога Савецкага Саюза. Без віз у Польшчу маглі б прыязджаць толькі асобы, якія ў пашпарце маюць паметку аб польскай нацыянальнасці. Неабходнасць увядзення візавых абмежаванняў тлумачыцца ўзростам колькасці злачынстваў, учыненых грамадзянамі посткамуністычных краін і вядзеннем імі нелегальнага гандлю.

**VII паломніцтва ромаў** з Ласасіны Гурнай у базіліку Маці Божай Балеснай у Ліманавай прыцягнула пяцьсот цыганоў з паўднёвай Польшчы і Славакіі. Пілігрымаў віталі жыхары Ліманавай, якія яшчэ нядаўна не згаджаліся на адкрыццё цыганскіх класаў у мясцовай школе, але пасля душпастырскага ліста тарнаўскага біскупа адмянілі свой погляд.

У апошніх двух гадах было заснаваных **11 прыватных вышэйшых навучальных устаноў.** У гэтым годзе ў такіх ВНУ будзе вучыцца 3 тысячы чалавек /каля 1 прац. усіх студэнтаў/.

**Ужо без чаргі можна дастаць кватэру.** Старшыня жыллёвага кааператыва ў Гайнаўцы кожны дзень праводзіць размовы са 150 членамі сваёй арганізацыі і прапануе ім кватэры пад варункам, што заплацяць усю суму адразу. З ліку тысячы чалавек прыняць прапанову згадзіліся... сем. Кватэра зараз каштуе 200 - 300 мільёнаў злотых.

## ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### АДНОЙЧЫ ЛЕБЕДЗЬ, РАК, ШЧУПАК...

На мінулым тыдні на плошчы Незалежнасці "левыя" ладзілі мітынг. Гэта камуністы, "Славянскі сабор", прыхільнікі руху за дэмакратыю і сацыяльную справядлівасць, камсамольцы, марыністы і баталісты... Усяго 14 грамадскіх аб'яднанняў і рухаў. Нават знешне тэма мітынгу "Згода і рэформы" не вытрымлівалася - чырвоныя сцягі, партрэты Леніна, чорна-залаціста-белы штандар "Славянскага сабора".

### АБЯЦАНКА-ЦАЦАНКА. БЕЛАРУСЬ У РОСПАЧЫ

Здаецца, міжурадавае пагадненне паміж Расеяй і Беларуссю, якое прадугледжвае, што цэны на нафту застануцца нязменнымі да канца года ўсяго толькі беларускае пажаданне і расейскае абяцанне. Згодна з загадам, які адпусціў з 18 верасня цэны на нафту, нафтапрадукты і газавы кандэнсат, вызначаны пэўны мінімум - 4 тысячы рублёў за тону.

На нарадзе кіраўнікоў асацыяцый і вытворчых аб'яднанняў, прадстаўнікоў гарадскіх саветаў, дырэктараў прадпрыемстваў прэм'ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч заявіў, што абвяшчэнне Расеяй свабоднага кошту на нафту ставіць Беларусь у надта складанае эканамічнае становішча.

Між іншым, кіраўнік урада паведаміў, што ўжо ў чацвёртым квартале цана можа ўзняцца да 24 тысячаў рублёў за тону.

### КРЫЗІС ПАГЛЫБЛЯЕЦЦА

На біржы працы Беларусі зарэгістравана 20 тысяч беспрацоўных. Паводле прагнозаў іх колькасць перавысіць да канца года семсот тысяч чалавек. Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі падрыхтавала ў сувязі з гэтым праграму па забеспячэнню занятасці працоўных і ўзмацненню іх сацыяльнай абароны.

### ЖАБРАКАМІ МЫ НЕ СТАЛІ. ПАКУЛЬ

Па дадзеных, што прагучалі на пасяджэнні Планавай і бюджэтна-фінансавай камісіі Вярхоўнага Савета ў дакладзе старшыні Дзяржэканамплана Рэспублікі Сяргея Лінга, агульнымі сіламі рэспубліка вырабіла на душу насельніцтва 67 кілаграмаў мяса, 120 кілаграмаў хлеба, 36 кілаграмаў цукру, 7 кілаграмаў алею...

Праўда, каб поўнасцю задаволіць патрэбы насельніцтва, неабходна набываць яшчэ зерне за межамі рэспублікі. Два мільёны тон пшаніцы паабяцаў Казахстан, па 300 тысяч тон - Краснадарская і Саратаўская вобласці.

### З БОКУ БАЧНА ЛЕПШ

Удзельнікі пасяджэння сойма БНФ выказаліся за прыцягненне да кантролю за выкананнем правоў чалавека на Беларусі і сітуацыяй вакол рэферэндуму замежных назіральнікаў. Ужо праведзены папярэднія перамовы з прадстаўнікамі амерыканскіх і заходнееўрапейскіх дэмакратычных колаў.

### РАТУЙСЯ, ХТО МОЖА!

Аказваецца, Беларусь - лідэр Садружнасці па "ўцечцы мазгоў" за мяжу. Як сведчаць дадзеныя Інстытута сацыялогіі АН РБ, у 1990 годзе яе пакінулі 332 чалавекі на кожныя 100 тысяч жыхароў. Сярод гарадоў вылучаецца Менск - 626 чалавек на 100 тысяч жыхароў. На сённяшні дзень колькасць жадаючых пакінуць Беларусь складае 22 працэнты ад яе жыхароў. Даследаванні сацыёлагаў папярэджваюць аб асноўнай небяспецы ўнутранай "уцечкі", калі вучоныя аддаюць перавагу іншым сферам грамадскай дзейнасці. Для прыкладу, у 1991 годзе з АН РБ звольнілася 270 кандыдатаў навук, а на работу паступіла толькі 80.

### НУ, ЗЛАЧЫНЦА, ПАЧАКАЙ!

Для барацьбы з мафіёзнымі структурамі, якія ўсё больш актыўна асвойваюць дзяржаўны сектар, асабліва ваенныя ведамствы, у Савеце Міністраў Беларусі арганізавана спецыяльная працоўная група па праверцы фактаў злоўжывання службовым становішчам службовых асоб і па пытаннях барацьбы з арганізаванай злачыннасцю. У групу ўвайшлі адказныя работнікі ваеннай і грамадзянскай пракуратур, МУС, КДБ.

### ВЯРТАННЕ Ў РОДНЫ КУТ

Днямі Менск наведала дачка апошняга ардыната Нясвіжскага замка князя Радзівіла Альжбета Радзівіл. Гэта была першая сустрэча з роднай зямлёй пасля 56 гадоў разлукі.

### І КУДЫ Ж ТЫ, ПРЫНЦ НІГЕРЫІ, КУДЫ?

Нядаўна Камісія Вярхоўнага Савета рэспублікі па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю атрымала ліст ад прынца Нігерыі Роўлінга. Ён просіць прыняць яго ў якую-небудзь ваенную вучэбную ўстанову Беларусі. Больш таго, ён нават запэўнівае, што, калі будзе ў тым патрэба, змагацца ў саставе Узброеных Сіл нашай рэспублікі.

Аднак парламентарыі дыпламатычна прапанавалі прынцу пачакаць з паступленнем у беларускую ваенную ўстанову па меншай меры два гады.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* Як Міхась Шаховіч стаў капіталістам.
* Беласточчына тэатральна-фільмавай базай краіны.
* Гісторыя праваслаўнага прыхода ў Сямяцічах.
* Мастак Аляксееў з Гродна.
* За што і з кім змагаемся?

### „СВАЕ" ДУМАЮЦЬ ПРА СЯБЕ

*Працяг са стар. 1*

схіле эпохаў, пра I Рэчыпаспалітую і пра талерантнасць у ёй, пра культурныя і гаспадарчыя цэнтры ды перыферыі і пра шмат яшчэ што цікавае. Не было толькі нічога пра нацыянальныя меншасці ў Польшчы і іхныя праблемы. А калі дакладчык і закранаў якую нацыянальнасць, дык толькі дзеля таго, каб з іншай перспектывы глянуць на палякаў, так сказаць, на „сваіх" збоку.

Паланацэнтрызм — вось чым адзначалася гэтая сесія. „Свае" гаварылі пра сябе, замест таго, каб намагацца ліквідаваць абсурдны падзел на „сваіх" і „іншых".

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# БЫЦЬ У АДПАЧЫНКУ Ў ВІДАВЕ...

... і не наведаць сваіх блізкіх, дык гэта нават грэх. У Пілiпках жыве мая цёця Гандзя, ёй ужо 86 гадоў і яна найстарэйшая ў вёсцы. 21 жніўня бяру я матарынку і еду туды паўз лугі і палі з сям-там несабранымі ляшкамі збожжа. Пад коламі сцелецца палатно асфальта, а ад павароту з шашы перад Трашчоткамі - акуратная, дагледжаная жвіроўка.

Цёця Гандзя прывітала мяне вельмі сардэчна. "Доўга Ты ў мяне не быў - кажа яна, - тры гады ўжо будзе. Я за гэты час пахавала свайго мужа. Сама як палец засталася, таксама чакаю смерці, але не прыходзіць яна штосьці па мяне. Ляжыць цяперака мой Косця спакойна на могілках у Пасынках, а колькі ж ён за жыцця нагараваўся. У немца 5 гадоў на работах быў, а калі вярнуўся ў 46-ым, трэба было нам усё нажываць. Паставілі мы былі новую хату, клуню, хлявы - цяпер усё пустое стаіць. Сын і дачка ў горадзе, ім гэта ўжо непатрэбнае. Ну, але хаця ім лягчэй жыць, на тое ж я ўсё жыццё ўбівалася на гаспадарцы, што аж у дугу мяне сёння згорбіла".

Паслухаў я ўсяго гэтага, пагаварыў з цёткай Гандзяй і пайшоў да солтыса, даведацца, што змянілася ў вёсцы за апошнія 3 гады. Солтысам цяпер у Пілiпках малады гаспадар Мікалай Паўлючук, ад якога даведаўся я, што ГС зачыніў спажывецкую краму. Сітуацыя направілася крыху, калі два разы ў тыдзень стаў прыязджаць з Нарвы самаход з прадуктамі, а то было ўжо зусім кепска.

У Пілiпках адны беларусы. Наракаюць яны, што нашы дзеячы зусім забылі пра іхнюю вёску. А можна ж было б арганізаваць сустрэчу з каторым-небудзь з нашых пісьменнікаў, або канцэрт якога-небудзь хору. Летняю парою над рэчкаю Локніцай можна было б наладзіць прыгожы фэст, толькі трэба, каб хтосьці гэтым заняўся, каб хтосьці помніў пра Пілiпкі. Можна было б выкарыстаць дзеля такой мэты і мясцовую святліцу, якая стаіць ужо зусім пустая.

Пусты цяпер і будынак, дзе раней гадавалі пячурыц, быццам бы калгас з Плёскаў забыў пра яго. Толькі вецер ды адны чэрці хіба па ім гуляюць, бо кожны, хто браўся за гадоўлю пячурыц у ім, хутка вяртаўся ні з чым туды, скуль прыйшоў.

Пасля абеду вяртаюся назад, дык думаю, заеду на пошту ў Пасынках і папытаюся, як пісьманосцы развозяць "Ніву" па вёсках. І што даведваюся ад начальніка пошты Сцяпана Кучынскага? Ва ўсіх 11 вёсках, якія яны абслугоўваюць, людзі не чытаюць "Нівы". Не чытаюць і іншых газет. Аднак родзіцца пытанне, чаму на пошту не прысылаюць нашай "Нівы", толькі нейкія выбарчыя газеты. Людзі маюць вышэй дзірак у носе розных выбараў, нават глядзець на агітацыю не хочуць. Ужо колькі выбіралі і што ад гэтага маюць?

Па дарозе заехаў я яшчэ ў Катлы, каб наведаць хросную маму. Ёй ужо таксама, як цёці Гандзі, 86 гадоў. Сустрэў я яе ў добрым здароўі, з усмешкай на твары. Здаецца, не пастарэла з часу, калі 8 гадоў таму ў "Ніве" быў надрукаваны яе здымак.

І так, рады спатканню з блізкімі, пад вечар вярнуўся я ў Відава, дзе адпачываю.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# ЦІ ПАГРАЖАЕ НАРВЕ БЕЛАРУСКАЯ МАФІЯ?

Аднаго разу, будучы ў Нарве, прачытаў я асаблівую лістоўку. Датычыла яна заробкаў членаў Гміннай управы. Войт - 11.022.000 зл., сакратар - 6.225.000 зл., скарбнік - 4.700.000 зл. У заканчэнні лістоўкі стаяла пытанне: Dokąd będą nas doić? Лістоўка паведамляла, што пададзеныя лічбы згодныя з плацяжным спісам з месяца жніўня.

Войт нараўскай гміны ў прынцыпе і не пярэчыў пададзеным у лістоўцы лічбам. Зрабіў толькі заўвагу, што аўтар, мусіць, каб прыгажэй выглядала, не адняў ад заробкаў падатку, які ў канцы ўсе мы плацім.

Недзе год таму раённая камендатура паліцыі ў Гайнаўцы назначыла камендантам камісарыята ў Нарве Кшыштафа Паўловіча. У Гмінную ўправу быў накіраваны ліст з просьбай акцэптаваць яго кандыдатуру на пост каменданта нараўскага камісарыята. Гмінная ўправа да просьбы не прыхілілася. Фармальнай залежнасці паміж структурамі паліцыі, а гміннымі самаўрадамі няма - сцвярджаецца толькі, што паміж паліцыяй і самаўрадам павінна быць супрацоўніцтва. Затым падобны ліст быў накіраваны ў Гмінную раду і разглядаўся на сесіі. Нараўскія радныя таксама не акцэптавалі асобу Кшыштафа Паўловіча. Ён, аднак жа, выконвае абавязкі каменданта паліцыі ў Нарве. Сітуацыя такая, кажа войт, можа цягнуцца год часу. Затым раённая камендатура павінна шукаць выйсце - прадставіць новага кандыдата ці нешта падобнае. Год часу мінае. Раённая камендатура, замест шукаць выйсце з сітуацыі, шукае, паводле войта, прычын непрыхільнасці да К. Паўловіча ў беларускім нацыяналізме. Пайшлі чуткі, нібыта войт хоча ўвесці абавязак навучання беларускай мовы ў гміне, у памяшканнях самой гміны забараняе гаварыць іначай як па-беларуску, а гмінны асяродак культуры то і не думае, каб запрашаць у Нарву іншыя, чым беларускія, калектывы.

На вывады ранавата, бо прадставіў я тут толькі адзін пункт гледжання. Магу ўсяго сказаць, што ў нараўскай пачатковай школе, у якую ходзіць звыш чатырохсот вучняў, беларускую мову вывучае толькі 50 дзяцей.

**А. МАКСІМЮК**

****************************************

# СКУПКА ЗБОЖЖА „АМЕГАЙ”

Бельская фірма „Амега” гэта, безумоўна, самы сур'ёзны купец на збожжа ў нашым рэгіёне. Вядзе яна скупку ў 22 пунктах, перш-наперш, у ГСах, ПГРах і Насенных цэнтралях. У Беластоцкім ваяводстве — найбольш жыта, у Ломжынскім — ячменю, а пшаніцы — пароўну, там і там.

У рэгіёне„Амега” купіла да гэтай пары 1042 тоны збожжа (780 — жыта, 135 — ячменю, 127— пшаніцы), з чаго выслала ўжо праз Семяноўку на Беларусь 517 тон. Найбольш збожжа для „Амегі” купілі ГСы ў Сямяцічах, Вышках і Сідры.

Наш рэгіён гэта толькі невялічкая частка абсягу інтарэсаў фірмы. „Амега” ахоплівае сваёй дзейнасцю ўсю краіну. Агулам, у Польшчы, гэтая суполка купіла ўжо 20600 тон збожжа: 4 тысячы тон жыта, 11 тысяч тон ячменю і 5 тысяч 600 тон пшаніцы.

За жыта можна было ў „Амезе” атрымаць 95 тысяч злотых за цэнтнер, за ячмень — 127 тысяч, за пшаніцу — 160 тысяч. Фірма кампенсуе пастаўшчыкам усе дадатковыя кошты.

Найгорш выглядае будучыня гандлю пшаніцай — яе цана падае. Падае таксама попыт на яе на Беларусі, зрэшты, як і на ўсё збожжа з Польшчы. Польскае збожжа, проста, параўнаўча дарагое і не вытрымлівае канкурэнцыі на міжнародным рынку.

Цяжкі час для нашых гаспадароў, здаецца, не хутка скончыцца. Усё паказвае на тое, што бліжэйшыя гады яшчэ ўскладняць сітуацыю сельскай гаспадаркі ў Польшчы. Звужваецца рынак на сельскагаспадарчую прадукцыю. Вельмі праўдападобна, што можа ён абмежавацца выключна да краёвага.

**АК**

# ШАЛКЕВІЧ - ЗАБАРОНЕНЫ

Хто на Беласточчыне не ведае Віктара Шалкевіча? Гэты гарадзенскі акцёр і бард быў бясспрэчнай зоркай на ўсіх трох Фестывалях музыкі Маладой Беларусі. Яго песні, з поўным інтэлігентнай іроніі зместам, журналісты з беларускай праграмы Беластоцкага радыё часта выкарыстоўвалі як каментары. Хопіць, напрыклад, пасля адпаведнага матэрыялу пусціць "Хамскую ўладу", і нічога ўжо больш казаць не трэба.

Аднак апошнім зазвычай смяецца начальства, інакш - улада. Калі для ўлады што-небудзь не спадабаецца/не дастаткова яе рассмяшыць/, дык яна можа гэта проста забараніць. Так сталася з песняй "Кароткая гісторыя Беларусі", якую Віктар Шалкевіч напісаў для спектакля "Тутэйшыя" паводле Я. Купалы. Яе мы больш ужо па Беластоцкім радыё не пачуем.

Для тых, хто не бачыў спектакля "Тутэйшыя" ў выкананні Гарадзенскага лялечнага тэатра/быў з ім і ў нас/, і для тых, хто ніколі не быў на "Басовішчы", прыводжу словы "Кароткай гісторыі Беларусі":

*А на Пярэспе музыка іграе,*
*Народ стаіць і толькі пазяхае,*
*Бо нейкія засранцы папсавалі танцы,*
*Худыя як цвікі - кажуць, што бальшавікі.*
*А помніш Антак, як таму з тры рокі*
*Увосень з лесу да нас лёталі сарокі.*
*А потым Шлёма з Груцаю зрабілі рэвалюцыю*
*І танцы - пся іх маць! - усе нам пачалі псаваць.*
*Аркестра грала польку трамбляблянку,*
*Я да сябе пяшчотна цісну ў Маньку,*
*Грукнулі сенцы, завіталі немцы,*
*У вантробе прыпякло, што аж з носа пацякло.*
*І толькі скрыпку ў рукі ўзяў стары Мікіта,*
*Каб нам урэзаць танга Кумпарсіта,*
*Загаўкалі сабакі, прыехалі палякі*
*І стала брат мой так тых палякаў як сабак.*
*Зноў на Пярэспе музыка іграе,*
*Народ стаіць і толькі пазяхае,*
*Бо зноў прышлі засранцы, зноў папсавалі танцы,*
*Худыя як цвікі - кажуць, што бальшавікі.*

Гэтая песня гучала, нават пару разоў па Беластоцкім радыё. Чаму яе цяпер забаранілі?.. Можна толькі здагадвацца, але пакуль што Шалкевічавай версіі гісторыі Беларусі, finita!

На шчасце яго творчасць настолькі багатая, што можна падабраць адпаведную песню на кожную нагоду. Цяпер рэдактарам перадач "Пад знакам Пагоні" я раю як найчасцей даваць песню: "Дзякуй, вялікае дзякуй, што ваша салодкая лыжка абдзёрла нам рот".

**М. ГАРАСІМАЎ**

# НЕПРАЧЫТАНЫ НАДПІС

У другой палове ліпеня г.г. група праваслаўнай моладзі з Беласточчыны - удзельнікі адпачынкова-працоўнага лагера ў надбужанскім Мельніку, працавала на тутэйшых праваслаўных могілках. Гэтае абшырнае месца вечнага спачынку дзе-ндзе прарасло ўжо хмызам. Арганізатар і кіраўнік лагера Пётр Каспярук з Мельніка /ён жа старшыня Брацтва праваслаўнай моладзі Варшаўска-бельскай епархіі/ супольна з настаяцелем тутэйшага прыхода прыйшлі да вываду, што праца пры ўпарадкаванні могілак будзе моладзі пад сілу.

Эфект працы быў відавочны ўжо пасля некалькіх дзён. Пры нагодзе парадкавання адкрываліся старыя магілы і крыжы з XIX, а мо і XVIII стагоддзяў /мельніцкія могілкі вельмі ж старажытныя; пра гэта сведчыць іх размяшчэнне ля Замкавай гары/.

Сярод надмагільных помнікаў асаблівую зацікаўленасць выклікаў камень з надпісам пры дарожцы, што вядзе ад уваходнай брамы да могільнікавай царквы. На камені дакладна можна разгледзець крыж /грэцкі/ ды пры ім літары "A + D" /Anno Domini?/. Спробы прачытаць далейшыя літары не прынеслі, на жаль, станоўчага выніку.

Намагільны камень са старасці крыху ўвайшоў у зямлю. Яго век можна лічыць на 150-200 гадоў, а то і больш. Хто пад ім спачывае? Пакуль што, яго таямніца застаецца неразгаданай.

**М.С.**





© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016




**Частка XII**

Галасы маладых у справе капіталістычных змен у нашай краіне падзеленыя. Маладыя не выступаюць так аднязначна і так аднагалосна ў абарону былога, як старэйшыя. Ды гэта зусім зразумела. Характэрнай рысай старасці ёсць тое, што яна баіцца ўсякіх змен і будучыні. Маладыя наадварот, прагнуць змен і на іх ускладаюць надзею на лепшую будучыню. Розніца паміж маладымі і старымі кідаецца ў вочы таксама ў выпадку трактоўкі такіх атрыбутаў сучасных змен як: свабодныя выбары ў Сейм, ліквідацыя цэнзуры, свабодная дзейнасць партый, магчымасць свабодных выездаў за мяжу. Усе названыя атрыбуты сучаснасці выразна недаацэньваюцца старымі, якія часта схільны ў іх бачыць нават праявы анархіі, зла і распушчанасці. Маладыя, наадварот, у большасці выпадкаў лічаць, што ўсе гэтыя праявы свабоднага палітычнага жыцця набліжаюць нас да свабодных еўрапейскіх краін. Праўда, інтэрпрэтацыя новага з боку маладых часта набывае досыць дзіўныя формы. Многія з іх успрымаюць новую рэчаіснасць як магчымасць рабіць што хочаш, уключна з камбінацыямі і ашуканствам. Вось голас трыццацігадовага беспрацоўнага хлопца:

## БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

„Калі выкінулі мяне з работы, то я думаў, што прышоў канец свету. Але пачаў разглядацца і паняў, што магу жыці лепш, чым жыў дагэтуль. Паехаў я ў Швецыю, але стуль мяне хутко вытурылі. Тады я пасхаў у Германію і там мне павязло. Удалося мне знайсці работу і я там прарабіў паўроку. Праўда, працаваў як вол ад ночы да ночы. Быў нявольнікам, маляваў кватэры, цыклінаваў падлогі, памагаў пры рамонтах. Схуд на дзесяць кілаграмаў. Не таму, што галадаў, бо еў добрэ, але таму, што вельмі цяжка рабіў. А еў добрэ такім способам, што ўдзень рабіў тое, аб чым ужэ сказаў, а ноччу разгружаў тавары ў вялізным спажыўчым магазіне. І там можно было есці што хочэш і колькі хочэш. Ну то мы насядаліся як бонкі. Не можно было выносіць нават грама, але пад канец, калі ўжэ нам немец паверыў і ні вельмі пільнаваў, то мы патрапілі вынесці тры або і больш кілаграмаў шынкі. Ну, значыцца камбінавалі. Я прывёз з Германіі шэсць тысяч долараў. От цяпер з іх і жыву, ну не толькі з іх, бо гандлюю на базары. Мой гандаль слабы. Усё змяшчаецца ў валізцы або на складаным ложку. Чы я ашукваю? Ну, а як без гэтаго ў гандлю? Калі ўдасца, то ашукваю. Паддаткаў ні плачу, а калі бачу, што той хто купляе раздзява, то і я яго крышку сцебану. Але чы ж гэто ашуканство? На колькі ты ашукаеш, калі цэлы твой маёнтак у валізцы або на ложку. Іншыя гандлуют грузавікамі, вагонамі! О там то одвалівают камбінацыі, а ў мяне то дробязь.

Усе старэйшы ў маёй сям'і ўздыхаюць да камуны, я там ні ўздыхаю. Я сягодня лягчэй жыву, чым жыў каліcь. І калі падумаю, што меў бы кожды дзень зноў хадзіць да работы за паўтара мільёна ў месяц, то мне скура шэрхне. Цяпер такую суму зараблю за два тыдні. Думаю, што ў капіталізме жыць можно, каб толькі не распіцца або не прапасці з бабамі. Будзем, дзядзьку, жыці, а тое што было ўжэ не вернецца, тут Вы маеце рацыю".

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# БАЛАХОВІЧ

*/пачатак у 37-39 н-рах/*

*"Ой-жа і сынкі былі у бацькі Булака,*
*Ой-жа і коні былі у бацькі Булака -*
*Дзе праляцелі тыя птушкі-коні*
*Тры гады трава не расла."*
*/З народнай песні/*

**ЗНОЎ У СЯДЛЕ**

Летам 1920 года наступіў правал кіеўскага паходу Пілсудскага. У крызіснай сітуацыі скончыліся роздумы, што рабіць атраду Булак-Балаховіча. У пачатку чэрвеня Беларуская група /бо так называўся цяпер атрад/ направілася на палескі фронт, пад Кіеў.

Першай баявой задачай групы было заняць лінію рэчкі Вярэшні і ўстанавіць, дзе знаходзяцца бальшавіцкія часці. Перадавыя патрулі балахоўцаў натknуліся на бальшавікоў пад вёскай Карпілаўкай, дзе тыя акапаліся, ствараючы лінію абароны Чарнобыль-Чарэвічы. Вестка аб сутыкненні з бальшавікамі ўвяла балахоўцаў, якія ўжо пачалі хваляваццa, што праціўніка так доўга не відаць, у вельмі добры настрой. Ноч усё-такі прайшла спакойна. Раніцай Балаховіч даў загад наступаць. Бой ішоў да вечара, калі бальшавікі падаліся назад. Такім чынам пачаліся працяглыя маршы і атакі партызанскай вайны. Балаховіч цэлы час дзейнічаў на тылах праціўніка, прабіваючы сабе дарогу ў бязлітасным змаганні. Самымі вялікімі поспехамі ў гэтай барацьбе аказаліся атакі на Оўруч і Вяледнікі.

Оўруч захапіў Юзік Булак-Балаховіч. Ягоныя часці ўвайшлі ў мястэчка на досвітку, абмінаючы навакольныя вёскі, у якіх стаялі чырвоныя атрады кіргізаў і казакоў. Сярод выбітых са сну бальшавікоў запанаваў хаос. Іх артылерыя страляла па наваколлі, наносячы страты сваім часцям. Тым часам балахоўцы перліся да трох пунктаў у мястэчку: сядзібы Чэка, штабу бальшавіцкай дывізіі і мясцовай турмы. Бальшавікі арганізавалі абарону з кулямётамі пад будынкам Чэка ў рынку. Балахоўцы абкінулі іх гранатамі і адным наступам узялі будынак. За дзве гадзіны 2500 бальшавікоў, што былі ў Оўручы, было выразаных або разбегліся. У няволі апынуўся штаб дывізіі, а з турмы быў вызвалены натоўп бальшавіцкіх заложнікаў. Неўзабаве балахоўцы пакінулі горад, забіраючы гарматы, і схаваліся ў лясах. Падобным чынам Балаховіч захапіў Вяледнікі, дзе ў плен пайшоў штаб бальшавіцкай брыгады.

У часе адступлення польскіх войск Балаховіч у днях 2-8 жніўня 1920 года зноў дзейнічаў на тылах бальшавікоў, у аколіцы Каменя-Кашырскага. На польскі бок фронту прабіўся між Холмам і Драгабускам. 16 жніўня поўнасцю разбіў 67 полк будзёнаўскай Конармii, які заняў мястэчка Пухачаў. Бацька асабіста павёў атаку конніцы і нагнаў бальшавікоў на штыкі сваёй пяхоты.

Атрад Балаховіча называўся ўжо Беларускай народнай арміяй. "Армія" гэтая налічвала каля паўтары тысячы штыкоў, 400 шабель, 55 кулямётаў і 5 гармат, але сілы яе паступова раслі. Калі пасля варшаўскай бітвы пачалося контрнаступленне палякаў з-над ракі Вяпра, атрад Балаховіча дзейнічаў у складзе групы ген. Краеўскага. Балаховіч заняў Камень-Кашырскі і вырваўся наперад. Беларуская народная армія прарвалася праз фронт бальшавіцкай IV арміі і 26 верасня падыйшла пад Пінск. У горадзе знаходзіўся штаб IV арміі і запасны полк. Частка штаба ўцякла цягніком у Лунінец, а камандарм, начальнік штаба і член рэўваенсавета - конна на захад, на лінію фронту. Апоўдні Пінск быў у руках Балаховіча, які ўтрымаў горад да прыходу палякаў. IV армія аказалася разрэзанай на дзве часткі, а яе кіраванне парушаным. Манеўр Балаховіча вырашыў лёс барацьбы на цэлым фронце.

У часе партызанскай вайны на Палессі Балаховіч паказаў сябе дзёрзкім і прадпрымальным камандзірам, пры гэтым адораным шчасцем. Захаваўся з гэтай пары анекдот, як Балаховіча бальшавікі загналі ў тупік - з трох бакоў балота, з чацвёртага чырвонаармейцы. Ноччу прыснілася яму Матка Боская і сказала: "Дурань ты, вунь там жа сцяжынка", і паказала яе. Раніцай аказалася, што сцяжынка сапраўды была. Звычайна сцяжынкі паказвалі яму тутэйшыя людзі. Балаховіч карыстаўся падтрымкай сялян, якія інфармавалі

*Працяг на стар. 8*

## НАША ЗЕМЛЯРОБСТВА - ЗАНЯТАК ДЛЯ БЕСПРАЦОЎНЫХ

Як доўга існавацьме ў нас традыцыйная вёска, так доўга не будзе эканамічнага толку ў сельскай тут гаспадарцы. Яна ўсё па-сярэдневякоўваму натуральная, а не таварная.

Вёска абавязана памерці, але яе нельга забіваць. Канцэнтрацыя зямлі ў руках прынамсі пяцідзесяцігектарных фермераў - гэта марудны працэс, на дзесяцігоддзі. І такога чагосьці не ўбачым на пясках, на якія паступова вернецца - высечаная прадзедамі - пушча.

Жывем-бядуем на дэфіцытных гаспадарачках. Ад іх столькі тае карысці, што сам ты не галодны, не халодны, і яшчэ купляеш сёе-тое ў хату. А якое гэта жыццё, заўважае той толькі, хто пабываў трохі далей, чым у Варшаве з Гданьскам. На жаль, так мусіць быць /цуды бываюць жа не ў матэрыяльных сферах/.

Гаспадар не лічыць свае працы. Колькі яна каштуе, даведваецца ён тады, калі даводзіцца яму наймаць каго. Гаспадыня задаволеная тым, што трымае курачак-нясушак. Ні ён, ні яна, не перарахоўваюць завельмі, колькі тыя "ціпачкі" з'ядаюць збожжа ды ўсякае спажывы, не кажучы пра вартасць дошак, з якіх трэба ж збіць куратнік, ані працану часу патрэбнага на іх догляд. Падлічыўшы аказалася б, напрыклад, што за адно яйка мешчанін павінен заплаціць пяць тысячаў злотых... Падобная румянасць на яйным спаленым сонцам твары, калі хваліцца, што яны два разы ў год колюць кормніка, пад Каляду і на Вялікдзень. Не дадумаецца запісаць сабе для памяці, як шмат зжэрла тая свіння вотруб'я, бульбы, рэшты кармоў. Як многа ўсенька каштавала, і колькі ўзялося за тое мяса на бельскім ці бо гайнаўскім таргу. Аплацілася скурка за выраб?

Чым жа пакрываюць гаспадар з гаспадыняю дэфіцыт свайго гаспадарання? А тым, што пакуль маюць, гэта значыць: здароўем! Людзі зямлі, як сведчаць медыкі, ёсць самыя хворыя з хворых і хварэйшых за іх няма. Паглядзіце на маладых сялянаў, якія ў трыццаць сваіх гадоў маюць выгляд пяцідзесяцігадовага фабрычнага рабочага. А іхныя жонкі, якія пасля замужжа адразу апускаюцца ў старасць; добра, калі не сівеюць пры першым дзіцяці.

Страшная цана! Не заўсёды ўсведамляючы сабе, што плацяць яе за тыя куркі, за тыя кормнікі, за тыя барозны бульбы і мэтры жыта з пшаніцаю. Стала маючыся горай за равеснікаў нават у такой Гайнаўцы без гарадской каналізацыі, нават у такіх засмоктаных Крынках з кумпяістымі гультайкамі ў жыдоўскіх мурах. Таму, ці ёсць у нас маральнае права кляйміць знакам ганьбы здрады іх дзеці, што гурмам драпаюць ад лёсу родных бацькоў? Чалавек жа два разы не жыве.

Сельская гаспадарка беларусаў не дае, бо і не можа, фактычных даходаў, паслужыўшых інвестыцыйнаму размаху. **Гэта, па-праўдзе, і не гаспадарка, а ўсяго занятак для беспрацоўных**, для тых, каму нямаш дзе лепей падзецца.

Знойдуцца сярод нашага люду спраўнёхі, якім пад сілу будзе вылюдзіцца ў фермеры - з домам, як шклянка, з жонкаю першага сорту, з недзёбільнымі дзеткамі, з вячэрнім кабінетам поўным кніжак, і не млеючым ад халопскага страху, што ён беларус?... Словам, не мужык з комплексам усходняга нявольніка пад заходнім панам.

Я не магу слухаць, калі хто гаворыць, як гэта цяжка рабіць зямлю! Гэта значыць, што ў блізкі час ужо анікога не застанецца на ёй. А той, хто ўсхваляе гаспадара за яго па-звярынаму потную натугу дзеля хлеба народу, **гэта напэўна жулік**, пры тым тайна здаволены, што пашанцавала на лёгкахлебнасць. Грэх ці два, але так хітруны ўзвышаюць дурняў.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ВЯРТАННЕ СВЯТЫХ МОШЧАЎ

"Сёння радуюцца неба і зямля, - сказаў у царкве Уздзвіжання Святога Крыжа ў Кузніцы-Беластоцкай архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава. - На родную Беластоцкую зямлю вяртаюцца мошчы святога Мучаніка-Дзіцяці Гаўрыіла Заблудаўскага". Кузніца была першым, на польскім баку мяжы, этапам, дзе затрымалася шэсце са святымі мошчамі.

На пагранічным пераходным пункце 21 верасня /якраз у дзень Нараджэння Прачыстай Дзевы Марыі/ сабралася каля 5 тысяч народу. Каля 1,5 тысячы паломнікаў прыехала з Беларусі, астатнія, галоўным чынам з Беласточчыны. Прысутныя былі царкоўныя іерархі з Беларусі - архіепіскап Гродзенска-ваўкавыскі Валянцін ды епіскапы Пінска-лунінецкі Сцяпан і Наваградска-лідскі Канстанцін, святары і навучэнцы Духоўнай семінарыі ў Жыровічах. На мяжы з'явіліся прадстаўнікі адміністрацыйных улад Гродзенскай вобласці і Беластоцкага ваяводства: старшыня Абласнога выканаўчага камітэта Дзмітры Арцыменя і ваявода Станіслаў Пруціс.

А гадзіне 17-ай рушыла ўрачыстае шэсце да мясцовай царквы. Калі праходзіла яно каля рымска-каталіцкага касцёла, адазваліся званы. Так урачыста суправаджалі паломнікаў католікі на ўсім шляху, у Саколцы, у Васількове і ў Беластоцкай фары. Архіепіскап Сава падзякаваў за гэтую праяву сардэчнага экуменізму Беластоцкаму мітрапаліту арцыбіскупу Эдварду Кіселю.

Урачыстасць перанясення мошчаў св. Гаўрыіла пачалася ў Гародні два дні раней. 19 верасня ў Пакроўскім кафедральным саборы, дзе ад 1944 года захоўваліся святыя мошчы, адбылася Усяночная, якую ўзначаліў архіепіскап Валянцін. Такая ж Усяночная мела месца і на наступны дзень, толькі ў Сяргіеўскай царкве жаночага манастыра Нараджэння Багародзіцы.

21 верасня Боскую літургію з архірэйскім саслужэннем узначаліў мітрапаліт Менскі і Слуцкі, Патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт. Пасля малебна ля святых мошчаў, вуліцамі Гародні прайшоў хрэсны ход. Урачыстае шэсце дайшло да канца горада, затым паломнікі накіраваліся машынамі ў бок дзяржаўнай мяжы, дзе і адбылася прывітальная цырымонія.

Архіепіскап Сава дзякаваў беларускаму народу за зберажэнне мошчаў Святога Мучаніка-Дзіцяці. "Толькі дзякуючы такім простым, працавітым і хрысталюбівым людзям, - казаў ён, - захавалася і выжыла хрысціянская вера, Праваслаўная царква. Я ведаю, як нялёгка было гарадзенцам развітацца са святым Мучанікам-Дзіцяткам Гаўрыілам, але яны зразумелі, што месца святых мошчаў на радзіме".



*Царкоўныя іерархі – архіепіскап Беластоцка-гданьскі Сава і архіепіскап Гродзенска-ваўкавыскі Валянцін.*



*Семінарысты з Жыровіч.*

Падчас казані ўладыкі я стаяў сярод жанчын з Новага Двара - яны ледзь дацупіліся да мураванай агароджы вакол царквы - дык бачыў на іхніх шчоках слёзы ад хвалявання і вялікай радасці. Такая ўзрушанасць даецца чалавеку, мабыць, раз на ўсё жыццё.

Кажуць, вельмі ўрачыста праходзіла перанясенне мошчаў св. Гаўрыіла ў Беласток у 1910 годзе. Але мне здаецца, што сёння, у абсалютна зменены сітуацыі, праваслаўныя жыхары Беласточчыны перажывалі гэтую падзею яшчэ мацней.

Да Беластока шэсце паломнікаў дайшло пасля поўдня 22 верасня. Тут, ля могільнікавай царквы Усіх Святых на Выгодзе, сфармаваўся паход, які ўсёй шырынёю вуліцы расцягнуўся на сотні метраў. Вулічны рух у цэнтры Беластока быў спынены. Тысячы, тысячы людзей праводзілі св. Мучаніка Гаўрыіла да месца ягонага спачынку - да сабора св. Мікалая на вуліцы Ліповай. У саборы адслужыўся малебен, затым вернікі пакланяліся святым мошчам. Пасля таго служылася Усяночная і спяваўся акафіст св. Мучаніка Гаўрыіла. Уся ўрачыстасць закончылася ў сераду 23 верасня архірэйскай святой Літургіяй і хрэсным ходам вакол сабора. Мошчы былі пакладзены ў месца іх пастаяннага захоўвання - у правы неф сабора св. Мікалая.

Ва ўрачыстасці, побач з гаспадаром архіепіскапам Савам і беларускімі іерархамі, удзел прымалі епіскапы: Лодзінскі і Познанскі Сымон, Люблінскі і Холмскі Авель ды Аквілейскі Клаўдзій. У саборы св. Мікалая мошчы вітаў таксама мітрапаліт Эдвард Кісель. На ўрачыстасць прыехаў з Варшавы Надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь Уладзімір Сянько.

Перанясенне мошчаў святога Мучаніка-Дзіцяці Гаўрыіла Заблудаўскага з Гародні ў Беласток гэта, безумоўна, адно з найвялікшых святаў Праваслаўнай царквы ў Польшчы і на Беларусі. Але, перш за ўсё, гэта свята тае невялікае часткі беларускага народа, якая жыве на Беласточчыне. Гэта падкрэсліваў у сваіх казанях на паасобных этапах урачыстага шэсця архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

# НАШЫ КАРАНІ

### XLIV. ЯШЧЭ АДНА НЯЎДАЛАЯ СПРОБА

Бура грамадзянскай вайны ў Беларускай дзяржаве /Вялікім княстве Літоўскім/ не заціхла і пасля паражэння князя Свідрыгайлы і запанавання над Вільняй князя Зыгмунта. Таму што Зыгмунтава перамога не была трывалай. Падпарадкаванне ім свае дзяржавы Польшчы, вяршынства ў ёй каталіцкай іерархіі ды засілле палякаў на вялікакняскім двары выклікала супраціў патрыятычных сіл у краіне. У выніку змовы праваслаўных князёў на чале з Іванам і Аляксандрам Чартарыскімі вялікі князь Зыгмунт быў забіты, а яго сын Міхал схаваўся ў свайго цесця на Мазоўшы. На вялікага князя ў Вільні быў узведзены ў 1440 годзе Казімір, сын караля Якава-Уладзіслава-Ягайлы і каралевы Соф'і, якая паходзіла з беларускіх праваслаўных князёў Гальшанскіх. /Значыць, у жылах вялікага князя, а з 1447 г. таксама караля польскага, празванага гісторыкамі Казімірам Ягелончыкам, не было і кропелькі польскай крыві/. Паступова на беларускіх, украінскіх і літоўскіх землях эмоцыі суцішаліся і, здавалася, настаў доўгачаканы час духовага спакою і стваральнай працы. На жаль, гэтак не сталася.

У 1437 г. з Канстанцінопаля на мітраполію кіеўскую і ўсяе Русі прыбыў мітрапаліт Ісідар - грэцкага паходжання заўзяты ваяўнік за унію Праваслаўнае Царквы з Каталіцкім Касцёлам. Падчас Ферара-Фларэнцкага каталіцкага сабора ён усімі сіламі дамагаўся ад праваслаўных іерархаў падпарадкавання папе рымскаму, а пад актам уніі склаў свой подпіс першы, напісаўшы: "падпісваюся з любоўю і адабрэннем". Епіскапа суздальскага Аўраамія, які спадарожнічаў яму, мітрапаліт трымаў у склепе закаванага ў ланцугі датуль, пакуль той таксама не падпісаўся. За гэтую здраду Праваслаўя папа рымскі ўзвёў Ісідара ў сан кардынала-прэсвітэра і папскага легата /прадстаўніка/ на Літву, Лівонію, усю Русь і Польшчу.

Ісідар, вярнуўшыся з сабора, пачаў насаджаць унію сярод праваслаўнага насельніцтва Польшчы, Украіны, Беларусі і Маскоўскай Русі. Праваслаўныя абурыліся і востра запратэставалі. Князь маскоўскі Васіль Васілевіч звёў папскага кардынала Ісідара з мітрапалічага пасада і загадаў зняволіць яго ў Чудавым манастыры, а сабор епіскапаў і ігуменаў асудзіў і пазбавіў годнасці мітрапаліта. З Масквы кардынал уцёк у Навагрудак, але і тут быў непрыхільна прыняты духавенствам і народам, затым праз Польшчу выехаў у Рым.

Каб падмацаваць унію і заахвоціць да яе праваслаўных, Казіміраў брат, кароль польскі Уладзіслаў Ягелончык у 1443 г. даў грамату праваслаўнаму духавенству, у якой сцвярджаў, што Усходняя Царква ўжо прыведзена ў даўно жаданае з'яднанне з Рымскім Касцёлам і таму праваслаўнае духавенства, якое да гэтага часу цярпела некаторы прыгнёт, цяпер абдароўваецца ўсімі тымі правамі і прывілеямі, якімі карыстаецца каталіцкае духавенства. Аднак гісторыкі не маюць упэўненасці, ці гэтая грамата датычылася праваслаўнага духавенства ва ўладаннях Уладзіслава і Казіміра, ці толькі ў Каралеўстве Польскім. У сувязі з уцёкамі кардынала Ісідара справа уніі на некаторы час заціхла.

Паміж вялікімі князямі Казімірам Ягелончыкам і Васілём Васілевічам на працяглы час склаліся прыязныя адносіны, і гэта садзейнічала ажыўленню праваслаўнага духоўнага жыцця ў абедзвюх краінах, асабліва ў Беларусі і на Украіне. Між іншым, у 1444 г. Казімір вярнуў Беларускай дзяржаве Драгічынскую зямлю і гэтым выдатна паспрыяў развіццю і ўмацаванню на сённяшнім Паўднёвым Падляшшы Праваслаўя. Старажытны горад Драгічын умацаваў сваю ролю вядучага праваслаўнага духовага цэнтра на Сярэднім Пабужжы.

У 1448 г. у мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі быў пастаўлены разанскі епіскап Іона. Выбралі і паставілі яго рускія епіскапы, таму што тадышні канстанцінопальскі патрыярх быў уніятам і да яго за пастаўленнем праваслаўнага мітрапаліта звяртацца было немагчыма. Ад таго часу ў Маскве сталі выбіраць і ставіць у мітрапаліты без просьбы пра благаслаўленне канстанцінопальскага патрыярха, хоць ён і быў праваслаўным. Такім чынам з 1448 г. Руская Праваслаўная Царква стала лічыцца аўтакефальнай, г.зн. незалежнай ад замежнай духоўнай іерархіі.

Выбар Іоны ў мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі прыхільна сустрэў Казімір Ягелончык. Пад духоўную апеку ўладыкі Іоны перайшлі ўсе праваслаўныя з трох дзяржаваў: Вялікіх княстваў Літоўскага і Маскоўскага і Каралеўства Польскага. Мітрапаліт неўзабаве наведаў Вільню, Навагрудак, Кіеў, Галіч і іншыя цэнтры Праваслаўя, уладкаваў розныя справы ўнутранага жыцця Царквы ў Казіміравых уладаннях. Гэты візіт паспрыяў стабілізацыі духоўнага жыцця і згуртаванню праваслаўных пасля шматгадовай смуты. Наступіла гэтае блаславёнае зацішша ў вельмі важны час, бо перад тым, як над Праваслаўнаю Царквою на беларускіх, украінскіх і польскіх землях зноў пачалі згушчацца пагрозлівыя хмары.

**МІКОЛА ГАЙДУК**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ВАНДРАВАЛІ

Нялёгка было арганізаваць гэтае мерапрыемства. Усё-такі вандроўка беларускай моладзі, якая займаецца, беларускім сцэнічным словам, - адбылася. У апошні тыдзень жніўня народны тэатр чытальнікаў „Жывое слова" з Педагагічнага інстытута ў Менску і сцэнічная група „Балаган" з Беластока прайшлі са сваёй мастацкай праграмай з Гайнаўкі праз Тапіла (у Белавежскай пушчы), Войнаўку, Вярсток, Грабавец, Стары Корнін.

Нягледзячы на арганізацыйныя праблемы вандроўка прайшла паспяхова. За выдатную дапамогу на трасе належыцца падзяка спадару Кастусю Майсені з Гайнаўкі, Пятру Багроўскаму з Руткі (гм. Дубічы-Царкоўныя), яго жонцы, ды ўсім тым жыхарам у вёсках, якія нас шчыра і сардэчна прыймалі. Удзячнасць кіруецца і ў адрас Міністэрства культуры і мастацтва ў Варшаве, якое выдзеліла на гэтае мерапрыемства неабходнае фінансавае забеспячэнне.

Як было на вандроўцы? Расказваюць удзельнікі з „Жывога слова":

**Лена і Юрка Чарэнка** (сужонства) — вядучыя тэатр:

*-Наш тэатр на Беласточчыне ўжо трэці раз. Калі былі мы ўпершыню (снежань 1990 г.) пазнаёміліся са сваім аднадумцам — Янкам Морданем. Ён запрапанаваў нам тэатральныя вандроўкі па Беласточчыне падчас летніх канікулаў дзеля беларускага адраджэння. Мінулым летам ужо мы вандравалі і выступалі ў Трасцянцы, Пухлах (гм. Нарва), Целушках, Канюках, Рыбалах (гм. Заблудаў). Сустрэчы з мясцовымі беларусамі нам спадабаліся. Асабліва запомніліся знаёмствы з такімі выдатнымі людзьмі як народны разьбяр у Канюках Уладзімір Наўмюк і святар у Рыбалах а. Рыгор Сасна.*

*Вандраванне па Беласточчыне цікавае і для нашага тэатра вельмі карыснае. „Жывое слова" — тэатр своеасаблівы. Існуе ўжо 27 гадоў і яго склад пастаянна мяняецца, таму што акцёры — гэта студэнты Педінстытута ў Менску, значыць, будучыя настаўнікі. „Бацька" „Жывога слова" — Андрэй Андрэевіч Каляда, які заклаў і вёў тэатр 25 гадоў, стварыў яго характар. Асаблівасць у тым, што мастацкае слова і выхаванне маладых людзей ідзе ў пары. Наш тэатр са сваімі спектаклямі выступае ў розных кутках Беларусі, таму прыемна, што цяпер можам вандраваць па Беласточчыне, дзе жывуць беларусы. Вельмі добра, што ідзем супольна з дзяўчатамі і хлопцамі з „Балагана", якія любяць роднае слова і самі становяцца добрымі яго прапагандыстамі. Будзем сябраваць.*

*Самае важнае — людзі: добрыя, шчырыя, сардэчныя, гасцінныя. Сёлета зноў мы ў гэтым пераканаліся. Усюды прымалі нас добра. А гасціннасць спадара Сяргея Нічыпарука і яго сям'і ў Грабаўцы была надзвычайная.*

*Станоўча ацэньваем арганізацыю вандравання. Вядома, што выступаць на сцэне пасля некалькіх кіламетраў пераходаў, кожны вечар у розных мясцовасцях ды ўмовах, цяжкавата, але затое цікавей, і атрымоўваецца больш задавальнення. Дзякуем за ўсё і спадзяемся запрашэння ў наступным годзе.*

**Света Арцяшук** (выпускніца Педінстытута):

*-Беларуская зямля багатая містычнай прыродай і цікавымі жыхарамі. Беласточчына мае прыцягальную сілу, вабіць да сябе на вандроўку ў бясконцую дарогу. Тут кружыць галаву пах палёў і сенажацяў, клічуць сваім пошумам лясы. Вечарам зіхатлівыя зоркі над галавой памагаюць марыць. Як прыгожа ля палаючага вогнішча, вакол якога гучыць беларуская песня.*

*Сустрэчы, развітанні, успаміны... Я кахаю цябе, вандроўнае жыццё. Не жадаю людзям манатоніі і тугі. Ударогу, сябры! Адчуйце водар траў, чароўны пошум дрэў і салодкую стому пасля вандравання. Стане тады багацейшай душа, а сэрца адкрываецца для харастве і дабрыні...*

*На развітанне адплача восень, прадзьме зіма, вясна адспявае вясёлую песню, а летам зноў мы пойдзем на вандроўку насустрач шчасцю!*

**Ала Сарока** (музычны факультэт):

*-У дарогу, дзеці беларускай зямлі! Чакаюць вас прыгоды і сябры!*

**Аксана Віхрова** (студэнтка рускай філалогіі):

*-Наша вандроўка — гэта вялікае светлае свята. Усё было вельмі добра. Шчасця вам, беларусы!*

**Света Грышанава** (першы раз на вандроўцы):

*-Сардэчна дзякую жыхарам Беласточчыны за гасціннасць, шчырасць і дабрату! Я вельмі рада знаёмству з удзельнікамі „Балагана".*

*Сяргей Статкевіч* (беларускі факультэт):

*Я ў першыню быў за межамі нашай дзяржавы. Іздзівіўся, што тут сустрэў такіх самых, як у сябе на Радзіме, людзей: сапраўдных беларусаў, што любяць сваю зямлю, родную мову. Шкада, што дзяржаўная мяжа нас раздзяляе. Дзякуй усім тым, хто наладзіў гэтую вандроўку і зрабіў вялікую справу для яднання людзей. Колькі цікавых сустрэч, новых знаёмстваў і незабыўных уражанняў. Жыве Беларусь!*

**Оля Камок** (беларуская філалогія):

*-Я вельмі задаволеная нашым сумесным вандраваннем з „Балаганам". Тут адчувала сябе, як дома, сярод блізкіх і родных людзей. Чакаю наступнай сустрэчы.*

**Сяргей Зянько** („капітан Гораў"):

*-Вялікае дзякуй за ўсё. Цяжка развітвацца з добрымі сябрамі. Я веру, што будзем сустракацца яшчэ.*

**Света Шчарбак** (руская філалогія):

*-На гэтай прыгожай зямлі, сярод новых сяброў я адчувала сябе жаданым госцем. Дзякую вам, беларусы, за шчырасць, цеплыню, гасціннасць!*

**Алесь Гурыновіч:**

*-Другі раз я на вандроўцы па Беласточчыне, і зноў спадабалася. Тут жывуць цудоўныя людзі, з якімі хочацца яшчэ сустрэцца. Дзякую за выдатную падрыхтоўку вандравання.*

**Наташа Жук:**

*-Выпала мне быць на Беласточчыне ўжо трэці раз. Заўсёды ад'язджаю з пачуццём вялікага задавальнення і крышынкай самоты пасля развітання. Такія вандроўкі патрэбны нам усім.*

**Саша Жук:**

*-Вандроўка была цікавай і вясёлай. Усяго добрага гасцінным жыхарам Беласточчыны.*

**Ларыса Сядко:**

*-Адным словам: вандроўка, гэта — цудоўна!*

**Ігар Кортэль** (настаўнік гісторыі):

*-Кожны прыезд на Беласточчыну (я ўжо трэці раз тут) з'яўляецца для мяне выдатнай нагодай зведаць зямлю, дзе жывуць спрадвеку беларусы. Выступаючы ў спектаклях, часта прыходзіцца мне іграць постаці з нашай гісторыі. Тут у вас адчуваецца*

*Працяг на стар. 8*

*На сцэне „мужчыны: моцны і слабы пол" з „Балагана".*

# ВАЙНА Ў МІЛЕЙЧЫЦАХ

Можна сказаць, што пачалася яна 17 жніўня 1992 г., калі Управа гміны рашыла ўзяць пачатковую школу на свае фінансаванне, а затым пераняць частку адміністрацыйнага нагляду, які да гэтай пары быў у кампетэнцыі куратара асветы і выхавання. Гэтае рашэнне выклікала абурэнне ў школе, а асабліва сярод дзеячаў школьнай "Салідарнасці".

Як кожны канфлікт, так і гэты мае свае карані ў мінулым, і, як нам здаецца, апрача ідэалагічных розніцаў дамінуюць у ім асабістыя прэтэнзіі людзей, заангажаваных на адным або другім баку сваркі.

Рэдакцыя "Нівы" атрымала камплект дакументаў ад мілейчыцкага аддзела Грамадзянскага камітэта Беластоцкай зямлі, а пазней ад войта гміны, з якіх паспрабуем зрабіць нейкі аналіз гэтай канфліктнай справы. Разумеем, што найлепш было б апублікаваць дакументы поўнасцю, аднак занялі б яны два нумары нашага тыднёвіка. Мяркуем таксама, што не ўсе прычыны канфлікту адлюстраваны ў дакументах і таму не думаем, што праўду пра мілейчыцкую "вайну ў вярхах" пазнаем да канца.

Абодва бакі канфлікту падрабязна прадставілі свае рацыі ў лістах да міністра адукацыі. Грамадзянскі камітэт піша міністру, што пасля таго, як Гмінная ўправа рашыла пераняць школу, у Мілейчыцах пачаўся катаклізм. Не надта вядома, у чым ён праявіўся, але праўдападобна ў такой метафарычнай форме прадстаўлялася адчуванне гміннай апазіцыі, аб'яднанай у Камітэце.

Галоўная засцярога, прадстаўленая ў пісьме міністру асветы, датычыць асобы войта гміны Мікалая Бартнічука, які не дае гарантыі на добрае супрацоўніцтва школы з гмінай. Дзеячы Камітэта пішуць, што кіруе ён гмінай з 1974 г. і за гэты час гміна сталася найбяднейшай і найбольш занядбанай у ваяводстве. Далей пішацца, што войт не стаў будаваць дома настаўніка, хаця зроблена была ўжо ўся дакументацыя; высек ён гектар школьнага лесу, а грошы з продажу дрэва выкарыстаў на асфальтаванне вуліцы, якая вядзе да яго хаты. З рахунку школы войт забраў грошы ў гмінны бюджэт і не даплаціў 50 мільёнаў злотых да школьнага аўтобуса; ліквідаваў школу ў Рагачах, дзе навучалася беларуская мова.

З увагі на такую палітыку войта ў школе быў створаны прафсаюз "Салідарнасць", якога кандыдат Марыя Цеслік выйграла конкурс на дырэктара школы, а прайгралі кандыдаты, якіх падтрымоўваў войт.

У канцы ліста старшыня Грамадзянскага камітэта Галена Пархоменка заяўляе міністру, што войт пераняў школу, каб разлічыцца з дырэктаркай і школьнай "Салідарнасцю".

Тыдзень пазней сваю рацыю выклажыў міністру войт гміны Мікалай Бартнічук. На пачатку піша ён, што войтам застаўся з волі Рады, выбранай у дэмакратычных выбарах, а барацьба, якую вядзе супраць яму старшыня Грамадзянскага камітэта Галена Пархоменка мае асабістыя прычыны. У семідзесятых гадах пані Пархоменка была дзеячам ПАРП і дырэктарам школы ў Мілейчыцах. Заблыталася яна тады ў нейкую фінансавую аферу, за што пазбавілі яе пасады і выключылі з партыі. З таго часу - паводле войта - пані Пархоменка не можа дараваць яму таго, што не склаў ён фальшывага паказання і не ратаваў яе, калі мела клопаты. У 1986 г. войт не згадзіўся, каб Галена Пархоменка стала яшчэ раз дырэктарам школы, а таксама прычыніўся да таго, каб адмяніць назву вуліцы ў Мілейчыцах, якой раней было прысвоена імя яе цесця. Далей войт пералічвае інвестыцыі, якія праводзіліся ў гміне ў апошніх гадах і дапамогу, якую з боку гміны атрымала школа. Паясняе, што дом настаўніка не будаваўся таму, што з боку грамадства не было ніякага зацікаўлення. Дрэва прадаваў з лесу, які не з'яўляецца ўласнасцю школы, а вуліцу будаваў для агульнага карыстання. Пераняў не выкарыстаныя школьныя грошы і перадаў іх на патрэбы дзіцячага садзіка.

Ліст, адрасаваны міністру народнай адукацыі войт канчае інфармацыяй, што быў членам камуністычнай партыі, але цяпер палітыкай не займаецца, а апазіцыя, згуртаваная ў Грамадзянскім камітэце - гэта таксама без выключэння старая партыйная наменклатура.

Выглядае на гэта, што прадаўжаецца канфлікт, які пачаўся вельмі даўно, з такой аднак розніцай, што аргументы "за" добрыя ў камуністычную эпоху, выкарыстоўваюцца сёння як аргументы на "супраць". Абодва бакі закідаюць сабе камуністычны спосаб рэагавання, хлусню і крывадушнасць.

Дзеячы Камітэта, а таксама і войт, далучылі да сваіх лістоў кіпу розных дакументаў, якія пацьвярджаюць іх рацыі. Выглядае на гэта, што вайна ў Мілейчыцах толькі што пачалася і яе хуткага канца нельга спадзявацца. Каб толькі, як гэта пры нагодзе кожнага канфлікту бывае, не пацярпелі трэція асобы, у гэтым выпадку мілейчыцкія дзеці.

М.



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 392

# ЗАСПАКОЕНАСЦЬ

Гартаю апошні зборнік Яна Чыквіна, „Кругавую чару". Некаторыя вершы перачытваю колькі разоў запар. Адзначыўшы для сябе ўжо даволі даўно, што істотныя творы праяўляюць сваю істотнасць таксама і ў тым, калі чытачу рупіць вяртацца да іх праз нейкі час і перачытваць нанава.

Творчасць Чыквіна ёсць з'ява істотная ў беларускай літаратуры (без дыферэнцыяцыі гэтай літаратуры на „нашу" беластоцкую і „іхнюю", што ў Рэспубліцы). Хоць для нашай яна, зразумела, куды больш важная, чымсьці для іхнай. Бо ж у значнай ступені дзякуючы творчасці Яна Чыквіна „Белавежа" і ўвесь беларускі літаратурны рух у Польшчы даўно перастаў быць рэгіянальнай цікавінкай ці нейкім дзікаватым атожылкам з, так бы мовіць, літаратурнай глебы. Нягледзячы на ўсіх і ўсё, што не спрыяе выспельванню і сталенню так званага літаратурнага асяроддзя, беларусам у Польшчы ўдалося дасягнуць стан амаль цалкавітай нармальнасці ў сферы літаратурнага жыцця. Кажу „амаль", каб пакінуць фортачку той, усё яшчэ неўтаймаванай, плыні нараканняў і жаляў, што пры розных нагодах прарываецца навонкі. Хай сабе й так... Я мяркую такім чынам: маем пару здольных літаратараў з невыпадковым талентам, маем сваё кола чытачоў (хай яно й невялікае), урэшце, маем нешта накшталт свае крытыкі (а не толькі прынагодныя сяброўскія занатоўкі й артыкульчыкі). Інакш кажучы, у нас стварылася нешта нападобе інтэлектуальнай інфраструктуры, ці мо інтэлектуальнай самадастатковасці, якая якраз і вырашае аб нармальнасці літаратурнага жыцця. Усё гэта — пры абсалютнай ненармальнасці становішча беларускай мовы і літаратуры наогул, пры іхным экзістэнцыяльным гібенні... Глянь-ма на іншых — у летувісаў, чэхаў са славакамі і ва ўкраінцаў у Польшчы дарма было б шукаць нечага хоць у дзесятай долі сходнага з тым, што мы агульна акрэсліваем назовам „Белавежа". Адны беларусы выбіліся звыш незайздроснага лёсу нацыянальнай мяншыні ў фальклорнай апратцы. Ды годзе, цяпер крыху пра іншае...

Паэзія Чыквіна з „Кругавой чары" наводзіць мяне яшчэ вось на якія роздумы. *Меншыцца айчыны далягляд — ужо амаль толькі што з Дубіч да Орлі,* — піша Ян у вершы „Слупы бязвер'я". Сузіранне марнасці людскога лёсу (у прыватнасці, беларускага нацыянальнага) і неразгаданасці быцця — вядучыя матывы ў „Кругавой чары". Зборнічак з'ўляецца запісам псіхічнай сітуацыі схільнага прыкладаць да жыцця эстэцкія меркі чалавека, які апынуўся на ростанях эпохі й часу *(Вытокі дзе яго? І дзе яго скрыжалі?)* і спрабуе знайсці праміналую зладжанасць асабістага лёсу ў паэзіі (разуметай тут зусім канкрэтна, як працэс нанізвання слоў і гукаў на нітачкі вершаваных памераў). Тайна лёсу — яна і застаецца тайнай, і подступ да яе можа быць учынены таксама праз сферу эстэтычнага. Уражанне пасля некалькіразовага чытання Чыквінавай „Чары" застаецца ўва мне большменш такое: у ягонай паэзіі наступіў перыяд творчай заспакоенасці, суцішанасці, калі характар пісьма вызначае „статычная" сузіральнасць, а не „кінетычны" пошук. З фармальнага пункту гледжання — гэта (празмерная) дбайнасць пра шліфоўку радка, памкненне да афарызацыі фразы, перасоўванне акцэнтаў з сэнсавага на музычны выгук верша... Гэтая „выпрацаванасць і дапрацаванасць" вершаў часамі пакідае чытачу замала інтэлектуальнай прасторы для ўласнага додуму, так сказаць, для працягу паэтычнага песнятвору (Чыквінава слова) у душы чытача... Для Чыквіна ў ягоным разуменні паэзіі як бы скончыўся час падтэксту і недасказанасці. Затое захапілі яшчэ не вычарпаныя музычныя магчымасці мовы, пераклік гуку беларускага слова з „касмічнай сімфоніяй" „моўнай айкумены"...

Значэнне Чыквіна для беларускага літаратурнага руху ў нас, дарэчы, далёка не вычэрпваецца тым эталонам патрабавальнасці і ўвагі да слова, які ён замацаваў у асабістай творчасці. Апошнія гады „непадлегласці" „Белавежы", кіраванай якраз Янам Чыквінам, спрычыніліся выдатна да актывізацыі нашага літаратурнага руху, што тычыцца выдавецкай дзейнасці і наладжвання даволі рэгулярных літаратурных сустрэч-семінараў. Яшчэ адна рысачка да вобліку нашай сякой-такой нармальнасці... Можна пагадзіцца, меншыцца айчыны далягляд, што ў сацыяльным вымярэнні літаратурнага руху праяўляецца якраз нязначнай колькасцю маладых адэптаў прыгожага пісьменства ці ўвогуле людзей здольных прыстойна пісаць па-беларуску. Але, як кажуць, поўнага шчасця ніколі не бывае. Мабыць, нейкі такі прынцып раўнавагі дзейнічае і ў літаратуры — альбо маем кола адэптаў ці нават паўграфаманаў, альбо якраз пару чалавек з сапраўдным літаратурным талентам. Іншыя, як было ўспомнена вышэй, не маюць ні аднаго, ні другога...

**Л. БАГАНЕЦ**

# АЛЬБОМ ПЕТРУКА

Уладзіслаў Петрук працуе тэхнічным рэдактарам у „Ніве" ад 1986 года. Па адукацыі ён — мастак графічнага афармлення. Закончыў Мастацкі ліцэй у Супраслі, а потым Вышэйшую школу кніжнай графікі ў Лейпцыгу (былая Германская Дэмакратычная Рэспубліка). Чытачы „Нівы" несумненна ведаюць рубрыку „Свойскія малюнкі", якую шмат гадоў вёў У. Петрук (нешта ў апошні час занядбаў яе, ці як?), змяшчаючы ў ёй свае эскізы тушшу альбо алоўкам. Перш за ўсё былі гэта замалёўкі архітэктурных асаблівасцяў нашага рэгіёна: вясковыя і гарадскія жыллёвыя і гаспадарчыя будынкі, капліцы, цэрквы і касцёлы, сінагогі — словам, усё тое, у чым захавалася тхненне даўніны і выраз адметнасці матэрыяльнай культуры Беласточчыны. Петрукоўы „рэестр" вельмі багаты — практычна, ён сваімі малюнкамі „накрыў" увесь абшар ваяводства, вокам мастака высочваючы ўсё тое, на што звычайнаму чалавеку не стае ні праніклівасці, ні ахвоты.

Дзякуючы Петруку „Ніва" сталася своеасаблівым ваконцам, праз якое раз у тыдзень чытачы маглі зіркнуць на матэрыяльны воблік свайго краю, у якім, акрамя эканамічнага заняпаду і бяды, хаваюцца рэчы каштоўныя і непаўторныя. Ды ўсё ж такі „перыяд жыцця" малюнкаў у газеце даволі кароткі — праз тыдзень выходзіць свежая газета і новы малюнак, папярэдні сціраецца ў памяці, потым наступныя тыдні і наступныя малюнкі, і ў кругавароце дзён губляецца цэласнасць успрымання і мастакоўскай задумы. Таму, мабыць, мастака не пакідала думка пра асобнае выданне сваіх малюнкаў, у якім гэткая цэласнасць магла б выявіцца ў поўным вымярэнні. І такая кніга паявілася сёлета —дыхтоўны альбом пад загалоўкам *Stare jest piękne (Architektura Białostocczyzny w rysunkach Władysława Pietruka)* выпусціў Выдавецкі дом „Тотус" у Беластоку, а надрукавала тыпаграфія імя Івана Фёдарава ў Санкт-Пецярбурзе.

Альбом Уладзіслава Петрука папярэджаны ўводзінамі Зыгмунта Цясельскага на трох мовах (польскай, англійскай і беларускай) і змяшчае каля двух соцень чорна-белых эскізаў. Першае ўражанне ад тэхнічнай якасці перадруку — не надта станоўчае. Здаецца, нібыта аўтар падабраў не той растр, і малюнкі выйшлі крыху размазаныя і невыразныя. Але тое ўражанне здымаецца, калі разглядаеш альбом даўжэй — гэтая тэхнічная нібыта „неахайнасць" пачынае набываць своеасаблівы шарм, як быццам перад намі перадрук старога альбома, зробленага богведама як даўно.

Па-другое — ўражвае „тэрытарыяльны дыяпазон" Петруковых малюнкаў. Сапраўды, у альбоме маем прадстаўнічы агляд архітэктурных стыляў, асаблівасцяў і цікавінак Беласточчыны— ад Дубровы-Беластоцкай да Сямяціч.

Петрук ёсць мастак салідны, з замілаваннем да дэталі. Але метад ягоны наўрад ці назавеш фатаграфічным. Тое, што адрознівае мастакоўскі рэестр ад фатаграфічнага, заключаецца якраз у адборы дэталяў. Фотаапарат рэгіструе ўсё, што трапляе ў яго аб'ектыў; цікавыя дэталі часта губляюцца ў фоне. Мастак выбірае тое, што ў дадзеным аб'екце істотнае, пазбягаючы татальнасці адлюстравання вонкавага свету. Гэты прынцып выразна назіраецца ў кнізе У. Петрука і ўяўляе сабою бадай ці не самы важкі элемент яе каштоўнасці.

**ЯН МАКСІМЮК**





© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# „БЕЖАНЦЫ"

*Працяг са стар. 1*

маліўся, не спявалі ім "Вечная памяць", ніхто і ніколі не запаліў свечку і не паклаў кветак. Дзесяткам тысяч нашых дзядоў прыйшлося перажыць усё жыццё са свядомасцю няспоўненага абавязку.

З мнагадзетных сем'яў вярталіся не раз 2-3 чалавекі. Вярталіся ўжо ў другую дзяржаву, на зямлю, якую 5-6 гадоў не кранаў ні плуг, ні матыка. Не было ні хаты, ні каня, ні качкі нават, а толькі лебяда ды асот на полі і галодныя дзеці на панадворку. Новае жыццё пачыналі ў зямлянках, робленых з галінак і гліны, а за ежу служыла лебяда і бярозавая кара. Мая бабуля ўспамінала калісьці, як у 1921 годзе прыйшлося святкаваць Пасху. Для сям'і з пяці чалавек асталіся толькі 4 бульбіны. Яшчэ сонца не ўзыйшло, калі яна, гаспадыня, пачала варыць суп з гэтых бульбін. Дзеці вылезлі з зямлянкі і бегалі на край вёскі выглядаць бацьку, які меў вярнуцца з вячэрняй багаслужбы. Там яны ўбачылі варону са зламаным крылом. "Якая была наша радасць, - гаварыла бабуля, - калі ўдалося злавіць гэтую варону. Суп быў не толькі бульбяны, але і з мясам. Хто не чуў плачу сваіх галодных дзетак, - прадаўжала яна, - той не пазнаў сапраўднага болю. Ад нікога і ніякай дапамогі, ніякай літасці, кругом амаль усе галодныя, босыя і абадраныя".

"Бежанцы" выязджалі з Расеі, а вярнуліся ў Польшчу. Зусім іншая была гэтая дзяржава. Яе ўраднікі прапагандавалі іншыя вартасці і арганічна не пераносілі ўсялякіх "кацапаў". Тыя, што пры цары навучыліся пісаць і чытаць, цяпер зноў непісьменнымі сталі. Дзеці, якія неўзабаве трапілі ў школу, глядзелі на настаўнікаў, як на пасланцаў з іншай планеты, зусім не разумеючы іхняй мовы. Хаця і вярнуліся яны на сваю зямлю, кругом усё было чужое і новае.

Спатрэбілася яшчэ некалькі гадоў, каб гэтыя людзі маглі пачаць жыць у сваіх хатах і прынамсі час ад часу наесціся хлеба ды варанай бульбы.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# БАЛАХОВІЧ

*Працяг са стар. 4*

пра рухі бальшавіцкіх атрадаў і папаўнялі рады балахоўцаў. Вялікай дапамогай атаману было супрацоўніцтва з беларускай падпольнай арганізацыяй "Зялёны дуб", якая мела свае ячэйкі па ўсім Палессі, нават у Камяні-Кашырскім, на ўкраінскім баку.

Бальшавікі, са свайго боку карысталіся дапамогай часткі мясцовага яўрэйскага насельніцтва, галоўным чынам моладзі. Прыводзіла гэта да непазбежных сутыкненняў. Балаховічу навязалі пазней ярлык "пагромшчыка" і пагромы сапраўды былі, напрыклад, у Камяні-Кашырскім. Мястэчка ўзяў і спаліў палкоўнік Паўлоўскі, пасля ўпартай абароны яўрэйскай моладзі, якая адыйшла потым у лес. Самога Балаховіча вітаў хлебамсоллю няшчасны кагал. Іншы прывітальны камітэт спаткаў Балаховіча ў Кажан-Гарадку. Мясцовы рэўком палічыў балахоўцаў за чырвоных казакоў і вітаў іх у чырвоных рубашках, дакладваючы, колькі было знішчожаных "ворагаў народа". Паколькі сапраўдныя чырвоныя сядзелі балахоўцам на карку, атаман без слова выняў шаблю і ягоныя коннікі, таксама без слова, выразалі ўвесь рэўком. Разня гэтая была потым палічана як чарговы "пагром". Балаховіч, каб пазбегнуць сапраўдных пагромаў, пачаў арганізаваць яўрэйскі атрад пад камандаваннем лейт. Цэйтліна. Удалося набраць толькі некалькі дзесяткаў добраахотнікаў.

Складанымі былі таксама міжнацыянальныя адносіны ў самім балаховічавым войску, перш за ўсё між беларусамі і расейцамі. Беларускія афіцэры лічылі, што займаюць беларускія землі і ствралі беларускую адміністрацыю, расейцы лічылі гэтую тэрыторыю часткай "адзінай і недзялімай". Каб разбараняць беларусаў і расейцаў, трэба было накіраваць спецыяльны атрад польскай жандармерыі.

Пакуль што Бацька трымаў кoратка "сваіх сыноў", але варажнеча між беларусамі і расейцамі вылілася ў адкрыты канфлікт у самы вырашальны момант змагання, у час паходу на Менск.

*/працяг будзе/*

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# ВАНДРАВАЛІ

*Працяг са стар. 6*

*подых слаўнай беларускай мінуўшчыны: багатыя вёскі, старажытная Белавежская пушча, цікавыя людзі, а перш за ўсё цудоўныя цэрквы. Вельмі добра, што ў Гайнаўцы ўзнікае беларускі музей. Маю што расказваць сваім вучням на ўроках гісторыі. Дзякую жыхарам Беласточчыны за іх беларускасць.*

**Лена Гаўрыльчык** (факультэт пачатковага навучання):

*-Вось і скончылася нашая вандроўка. Дзякую Яну і яго „Балагану". Гэтыя дні (якія так хутка праляцелі) былі лепшымі для мяне ў гэтым годзе. Вы ўсе вельмі добрыя, цікавыя, гасцінныя і вясёлыя людзі. З вамі добра адпачываецца душой. Тут, на гэтай зямлі, я пакінула кавалачак свайго сэрца і буду чакаць наступнага прыезду. Жадаю шчасця вам! Да сустрэчы!*

Выказванні членаў „Балагана".

**Дарота Голуб:**

*-Я ўдзельнічала ў многіх маладзёжных рэйдах і вандроўках па Беласточчыне. Гэтая была своеасаблівая. Апрача вандравання выступалі мы з мастацкай праграмай. У некаторых вёсках, дзе мы былі, вельмі рэдка з'яўляюцца сцэнічныя калектывы. Сустрэчы з мясцовымі людзьмі пераважна былі сардэчныя. Аднак здаралася выступаць, калі сярод публікі былі падхмеленыя мужчыны, якія нечага бурчэлі або выходзілі з залы.*

*Вельмі добра, што разам з намі вандравала „Жывое слова". Цешуся, што пазнаёмілася я з гэтымі цудоўнымі людзьмі ў сяброўстве і на сцэне. Можна ў іх многаму навучыцца.*

*Шкада, што гэта было маё развітанне з „Балаганам".*

**Марыя Аліфер:**

*-Я зачараваная „жываслоўцамі". Выступаць са сцэнічным словам на вандроўцы цяжкавата, але цікава. Адчуваецца, што жыхарам нашых вёсак таксама патрэбны такія сустрэчы. А мы, маладыя, маем нагоду зведаць сваю „старонку родную". „Тут жа людзі родныя і мова беларуская, хлебам прапахлая". Дзякую за ўсё.*

**Пётр Пракопчык:**

*Я другі раз на вандроўцы з „Жывым словам". Дзякую яму за прыязнасць да нас, маладых з „Балгана", і за сцэнічнае мастацтва.*

**Пётр Астасевіч:**

*-Словамі не выказаць уражанняў з вандроўкі. Трэба такое рабіць, напэўна трэба!*

**Яраслаў Місюк:**

*-Я здзіўляюся гасціннасці людзей у вёсках. Ці гэта рэальна ў наш час, што незнаёмыя дзеляцца з намі ўсім найлепшым, ад шчырага сэрца? Пэўна, яны так удзячны за прыгожае беларускае слова.*

**Рыгор Цыванюк:**

*-Такія мерапрыемствы вельмі патрэбныя. Дзякую Яну Морданю за вандроўку, якую буду памятаць доўга-доўга.*

Пасля такіх выказванняў прыемна мне (няскромна кажучы) як арганізатару. Цешуся, што мае намаганні не былі дарэмнымі. Аднак, насоўваецца пры тым пытанне: чаму нашыя многія дзеячы больш зацікаўлены ўзаемнымі сварамі і калатнечай, чымся канкрэтнай дзейнасцю на культурна-асветнай ніве?

Многае трэба і можна зрабіць.

**ЯН МОРДАНЬ.**

**Фота Пётр Астасевіч**

Якія мы людзі

# БУТЭЛЬКІ

Заўсёды стараўся ён жыць па-божаму. Цяжка і чэсна працаваў, не біў жонку. Ніколі не спазняўся на працу, бо спазняцца не мог: працаваў на чыгунцы, а галоўным яго заняткам было счапляць вагоны. Дзяцей на зладзеяў таксама не выхаваў.

Працаваў цяжка і па гадзінах працы, бо думаў, што гэта яму аплоціцца. Во пойдзе на пенсію, тады адпачне сабе, а што вырабіць — тое ягонае. Хопіць тады на іх дваіх са старой ды ўнукам на цукеркі будзе.

Так думаў ён яшчэ гадоў пяць таму назад. Сёння думае інакш. Сёння для яго найважнейшае — гэта знайсці ў парку адпаведную лавачку. Лавачку, на якой выпіваюць і дзе можна будзе падабраць бутэлькі ды здаць іх, каб купіць хлеба...

Ужо ад восьмай гадзіны раніцы ён ходзіць па парку. Як заўсёды — у цёмным выцвілым касцюме, выразна завялікім як на яго, ды ў белых заношаных тэнісках, зусім не падыходзячых да гэтага касцюма. Калі халадае —ён надзявае шкарпэткі. Калі ідзе дождж — паяўляецца ў парку з парасонам. Пакуль здароўе неяк трымаецца, не прапускае ніводнага дня. Дождж — не дождж, працаваць трэба!

У добрых часах можна было і мільён выцягнуць у месяц! Людзі пілі больш. Але гэта было ў мінулым годзе. Сёння людзі столькі не п'юць.

Штогадзіну або крыху радзей ён абыходзіць свой „рэвір". Старанна аглядае лаўкі, абыходзіць іх з усіх бакоў, рассоўвае траву, шукае ў ёй бутэлькі па піве быццам рыжыкі ў лесе. З гэтымі бутэлькамі — якраз як з грыбамі. Часамі можна знайсці цэлую кучу, а часамі і нічога.

Тады сядзіць ён дзесьці збоку, чакае. Ажыўляецца каля трэцяй-чацвертай гадзіны, калі людзі заканчваюць працу. Тады ў парку паяўляецца найбольш аматараў піва ў бутэльках. А хто б іх цягаў здаваць, гэтыя бутэлькі! У кампаніі гэта нават і не выпадае. Вось тады і можна пажывіцца.

З выбранага назіральнага пункта ён спадцішка наглядае, зорка сочыць, каб бутэлькі дасталіся яму. Толькі б не празяваць, калі скончыцца выпіўка, ды ў пару даскочыць да бутэлек.

Ужо мо з гадзіну чакаў ён. На суседняй лаўцы выпівалі. Вось-вось выкінуць бутэлькі. Ён напружыўся, увесь гатовы быў да скоку. І раптам здарылася нечаканае. Толькі бутэлькі паляцелі ў траву і мужчыны з суседняй лавачкі ўсталі, як перад іх лаўкай паявіўся худы і абдзерты мужчына з нейлонавай сумкай у руках. Мо якраз праходзіў каля лаўкі, а мо таксама недзе прытаіўся і чакаў. Быў маладзейшы і спрытнейшы, хаця не выглядаў на такога, што меў бы нейкі пастаянны занятак. Выкарыстаў аказію. Схапіў чатыры бутэлькі — і ў сумку.

Ну, не! Інтрузаў тут цярпець не будзем! Расчараванне і злосць, што накіпела на сэрцы пенсіянера, умомант адмаладзілі яго. Ён, як тыгр, скочыў на прышэльца і пачаў лупіць яго па галаве кулакамі, прыгаварваючы: „Мо табе, паскуда, на гарэлку грошы патрэбныя, а мне — на хлеб!"

Але таму, відаць, было абсалютна ўсё роўна, на што патрэбны грошы пенсіянеру. Зразумеў, што яшчэ хвіліна — і гэтыя бутэлькі могуцьляснуць. Схапіўшы торбачку пад паху, і ўцягнуўшы галаву ў плечы, ён вырваўся з рук старога чалавека і ўцёк ад яго чым далей.

„Яшчэ раз паявішся — утаплю ў ставе, — крычаў стары поўным нянавісці голасам. — Замест гарэлкі брудная вады нап'ешся!" — неслася наўздагон уцякаючаму.

* * *

Мне стала сорамна. Раніцай гэтага дня я выйшла, як заўсёды, за пакупкамі. На мурку каля ратушы старэйшыя жанчыны і мужчыны прадавалі свае небагатыя плёны з прысядзібных гародчыкаў. Шукаючы апошнія свежыя агурочкі, я скептычна акінула вокам іхні тавар. Нейкі выхуднелы мужчына злавіў мой позірк і благальна глянуў на мяне. Перад ім ляжала некалькі зялёных малюсенькіх яблычак, мо нават дзічак, дзве часначыны і стаяў слоік падрыхтаванага на зіму шчаўя. Ён доўга ўпрашваў мяне, каб я купіла хаця гэтае шчаўе, заахвочваў, што аддасць танна, што зімою яно будзе ўдвая даражэй. Але шчаўе ў слоіку выглядала так марна, як і абшарпаны сівы чалавек, што мне яго прапанаваў, і я вырашыла, што не варта выкідаць на яго грошы.

А цяпер вось каменем на сэрцы ляжыць апошні аргумент гэтага чалавека — прыцішаным, дрыжачым голасам вымаўленыя словы: „Пані, мне на хлеб...". У іх я чула дакор.

Трэба будзе пайсці ізноў. Мо ўдасца нешта купіць у яго...

**АДА ЧАЧУГА**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# Зорка
## старонка для дзяцей

# КОНКУРС!

Дарагія Чытачы! Аб'яўляю для Вас конкурс п.з. "НАШЫ НАСТАЎНІКІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ"! Можаце прысылаць інтэрв'ю з вашымі настаўнікамі, з настаўнікамі, якія навучалі беларускай мове вашых бацькоў, з тымі, якія працавалі ў вашай школе, а ўжо на пенсіі... Можаце запісаць іх успаміны, успаміны пра школу і настаўнікаў вашых бацькоў і дзядоў, прысылаць фотаздымкі вучняў і настаўнікаў з сямейных альбомаў... Можаце пісаць у "Зорку" цэлым класам, а і кожны з вас можа напісаць мне сам. Для аўтараў самых цікавых тэкстаў і здымкаў ёсць у нас вельмі каштоўныя кніжныя ўзнагароды.

Усё жыве, пакуль жыве памяць.





*Зноў пачаліся заняткі ў беларускай школцы ў Беластоку (тэл. 283 75).*
**Фота Міры Лукшы**

## Вершы Віктара Шведа

### НЕ БОЙСЯ, МАМА!

- Не забаўляйся малатком,
Сыночак мой, Сярожа.
Твая рука з малым цвіком
Пакрыўджанай быць можа!..

- Ты не бярэш таго ва ўлік,
Матуля дарагая,
Што Мікалай трымае цвік,
Я толькі забіваю!

### ДЗЕДКА НЕ БУДЗЕ МАЛАЛЕТКАМ

Дзедка пытае ўнучку Кацю:
- Можаш са мной пазабаўляцца?
На гэта ўнучка: - Дзедка Жэнька,
Ты ў нас ужо зусім старэнькі!

Я забаўлялася б з табою,
Калі б ты быў дзіця малое.
На жаль, ты ўжо ніколі, дзедка,
Не будзеш болей малалеткам!

### МАЕ СНЫ ВЯЛІ РАЗМОВУ

Ночкай цёмнаю Лявон
Нешта гаварыў праз сон.
Рана мама ведаць хоча:
- Што прыснілася, сыночак?

Ды не мог прыпомніць ён,
Які ноччу сніўся сон.
- Не мае ты чула словы,
Гэта сны вялі размову!

### ДА ЯКОЙ СЯМ'І НАЛЕЖЫЦЬ КІТ?

Бацьку запытаў маленькі Ціт:
- Ты скажы мне, даражэнькі татка,
Да якой сям'і належыць кіт?
Трэба ведаць гэта на занятках.

- Ты не гавары мне дурнаты,
Гэтага ніколі не вучыся.
Я не чуў, каб нейкія кіты
У сям'і якойсьці завяліся!

# КАСТРЫЧНІК

Пагаслі апошнія фарбы лета. Наўкол шэра і няўтульна. Над зямлёю плывуць нізкія хмары. Па некалькі дзён запар імжыць дробны дождж. Здаецца, усё нацягнута вільгаццю. У лесе стаіць трывалы пах прэлага лісця і грыбоў. Замірае жыццё лясных насельнікаў. Рэдка чуваць галасы птушак.

Калі зайсці ў хлеў ці склеп, то па кутках можна заўважыць матылькоў, якія нерухома застылі ў зімовай спячцы. Праўда, сон іх пакуль што яшчэ нямоцны. Паспрабуйце ўзяць іх у рукі, і яны пераляцяць на іншае месца. Але калі пачнуцца маразы, яны будуць нерухомымі да таго часу, пакуль іх не адагрэеш.

У кастрычніку самы час пачынаць клопаты пра тых птушак, якія застаюцца на зіму, рыхтаваць для іх кармушкі. І не толькі каля сваёй хаты ці на балконе гарадской кватэры. Кармушкі добра было б абсталяваць і ў бліжэйшым лесе. Лепш рабіць іх са стрэшкай, каб птушыны харч не замятала снегам. Зрабіўшы кармушку і прывучыўшы да яе птушак, нельга пасля іх кідаць на волю лёсу. Лясная "сталоўка" павінна працаваць да самай вясны. Папаўняць "стол" пажадана тры разы ў тыдзень. Што можа служыць кормам? Добра назапасіць на зіму насення клёну, ліпы, ягад рабіны, каліны, бузіны (чорны бэз), ядлоўцу. Не выкідвайце насенне гарбузоў, кабачкоў, кавуноў, дыні. Падсушыце іх і захоўвайце ў папяровых торбачках.

Для лясной "сталоўкі" не абавязкова кармушка. Нарыхтуйце з восені венікаў конскага шчаўя, лебяды, чартапалоху, крапівы. Зімой іх можна занесці ў лес і ў розных месцах "пасадзіць" у гурбы.

...З кожным днём халаднее. Час ад часу сыплюць снежныя крупінкі. Хутка зіма.

# ЯК УЗНІКАЛІ НАЗВЫ ПАСЕЛІШЧАЎ

Часцей за ўсё яны з'яўляліся разам з чалавекам, які выбіраў сабе месца на жытло. Да яго далучаліся іншыя, і паселішча брала сабе імя, прозвішча або нават мянушку таго, хто першы паставіў тут хату. Напэўна, вы не раз чулі, а то і ў сваёй мясцовасці ведаеце такія назвы: Адамаўка, Аляксееўка, Антонаўка, Андрэевічы, Васілішкі, Васюкі, Валодзькі, Галавачы... Шмат іх, такіх назваў, пачынаючы ад першых літар алфавіта і канчаючы апошнімі: Янукі, Яськаўка, Якімавічы...

Адным словам, мала знойдзецца ў нас такіх іменаў, якімі б не называліся не то што вёскі, мястэчкі, хутары, а і цэлыя гарады, бо ў радаслоўі кожнага хтосьці ж быў першым пасяленцам, заснавальнікам роду. Не дзіва, што ў дзвюх палескіх вёсках Грамыкі амаль усе жыхары носяць адно прозвішча - Грамыка. І цяпер ужо цяжка вызначыць, хто каму сваяк, блізкі, далёкі ці ніякі.

Амаль у кожным раёне сустрэнеце вы мястэчка ці вёску Буда, Баравая Буда, Высокая Буда, Кісялёва Буда, або проста Буда, Будка, Будзішча. Будай называлася часовае жыллё, і пайшла назва ад слоў будынак, будаваць, пабудова. У лясных будах жылі буднікі, якія выпальвалі драўляны вугаль, гналі смалу, дзёгаць.

У нас, у Беларусі, няма гор, затое вельмі многа розных Горак. Як іх адрозніць адну ад адной? Горка, вядома, ад слова гара. Вось чаму ў кожнай з іх сваё вызначэнне: якая, чыя. Чырвоная Горка, Мар'іна Горка, Казіныя Горкі, і нават Горы-Горкі. А я ведаю назву, што ўтварылася ўжо ў наш час ад зусім іншага слова - гора. Няма патрэбы тлумачыць, што азначае гэтае слова. Непадалёку ад маёй вёскі і зусім побач з суседнімі Селішчамі да вайны пачаў расці невялікі бярозавы гаёк. Захапіўшы Слуцк, фашысты ўзяліся вынішчаць яго насельніцтва. Людзей вывозілі сюды, у гэты гаёк, і тут забівалі. У тыя дні ў народзе і з'явілася назва гэтаму жахліваму месцу: Гараваха.

Калісьці, у далёкія-далёкія ад нас часы, месцы для сваіх паселішчаў выбіралі не толькі простыя людзі. Больш за тысячу год на рацэ Свіслач, непадалёку ад Менска, стаіць гарадок Заслаўе. Так назваў яго князь Уладзімір Святаславіч у гонар сына Ізяслава, які жыў тут са сваёй маці Рагнедай. На рацэ Бярэзіне полацкі князь Барыс Усяславіч заснаваў горад Барысаў. Са старажытных часоў дайшла да нас назва палескага Турава на Прыпяці. Імя Тура азначала славу і дужасць уладара, які заснаваў гэта паселішча.

*Працяг на стар. 10*



**Фота Петруся Пракопчыка**

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

## ДУБ-ЗАСТУПНІК

Злосна жыгалі яркія стрэлы маланак. Навальніца разышлася не на жарт. Здавалася, праврала неба, і вада бруістымі ручаямі струменіла па шурпатай кары старой ліпы. Буйныя кроплі гулка барабанілі па даху шпакоўні. Шпачаняты Жаўтароцік і Чарнушка сцішана сядзелі ў сваім доміку, баяліся, што вецер сарве домік і ён паплыве ў каламутным вадзяным патоку, а пасля і зусім патоне.

- Вось каб дзядзька дуб абараніў нас, - загаварыў Жаўтароцік.

- Ён жа так блізка! - ажыў Чарнушка. - І такі магутны...

Нібы пачуўшы праз шум дажджу і грукат грому галасы шпачанят, дуб зашамацеў густым лісцем і нахіліўся да старой ліпы, на якой вісеў домік Жаўтароціка і Чарнушкі. Ён так стараўся прыкрыць сабой безабаронных шпачанят, што магутнае голле яго аж трашчала.

А Жаўтароцік і Чарнушка спалохаліся яшчэ больш: чаму раптам цёмна стала ў іх доміку? І дажджавыя кроплі раней не так моцна барабанілі па даху. Чарнушка адважыўся высунуць дзюбку ў акенца, каб паглядзець, што ж здарылася.

У гэты момант бляск маланкі асляпіў яго. Вогненная страла, здалося, трапіла ў шпакоўню. Страшэнны грукат грому, трэск дрэва і яшчэ мноства нейкіх незразумелых гукаў абрынуліся на Жаўтароціка і Чарнушку. Шпачаняты аж знямелі ад страху. Забіўшыся ў куток, дрыжалі яны, бедныя, да таго часу, пакуль не сціхла навальніца.

Яркае сонца мірыядамі вясёлак заіскрылася ў дажджавых кропельках. З асцярогай выглянулі Жаўтароцік і Чарнушка з доміка. Яны не пазналі свайго суседа - дзядзьку дуба. Ранейшы велікан здаўся ім бездапаможным інвалідам.Неверагодная сіла распалавініла яго, абсмаліла і абламала шмат галін, нібы нажом успарола моцную кару. Да самай зямлі цягнуўся па ствале востры, страшны сваёй белізной след, пакінуты маланкай.

Вачам сваім не верылі Жаўтароцік і Чарнушка. А калі б маланка ўдарыла ў іх домік?

Радаваліся шпачаняты - засталіся жывыя!

І самотна было - шкада дуба-заступніка...

**МАКСІМ ВАЛОШКА**

## ЯК УЗНІКАЛІ НАЗВЫ ПАСЕЛІШЧАЎ

*Працяг са стар. 9*

Заўважце, што і простыя людзі і ўладары-князі будаваліся абавязкова паблізу вады, бо ў той час рэкі былі амаль адзіным і галоўным шляхам, што злучаў людзей з людзьмі, вёскі з вёскамі, гарады з гарадамі, народы з народамі. Нездарма Менск узнік на рацэ Менка, Пінск - на Піне, Слуцк - на Случы, Друцк - на Друці, Полацк - на Палаце, Віцебск - на Віцьбе, Чачэрск - на Чачоры, Бабруйск - на Бабруйцы.

Ёсць у нас вёскі, якія так і называюцца: Вёска, Новая Вёска, Вясея. Адкуль прыйшла да нас гэта назва сельскага паселішча? Са старажытнай славянскай мовы, у якой вёска называлася весь. Яшчэ і цяпер мы чуем: грады і весі. Град, горад ад слоў гарадзьба, гарадзіць, агарожа. Гародня, Наваградак, Гарадзішча, Гарадзея. Паселішча агароджвалі ад чужынцаў, ад захопнікаў высокімі сценамі, а вароты нанач бралі на замок. Пэўна ж, ад слова замок утварыўся і замак - палац, умацаваны вежамі з байніцамі, абкапаны глыбокім ровам.

Зброя ў старажытнасці ведаеце якая была: лукі і стрэлы. Каля Слуцка ёсць Лучнікі. Гэта адна з даўніх вёсак. Яе жыхары не лучыну шчапалі, а былі княжацкімі збройнікамі, рабілі для войска лукі. Таму і зваліся лучнікамі.

На пільнай варце нашай зямлі сталі беларускія вёскі Сякерычы, Сякераўцы, Сякераўшчына. Яны таксама рыхтавалі баявое ўзбраенне - сякеры, якімі бараніліся ад ворагаў. А ў Стралках, у Стрэльні, у Стральцове, у Стрэлішчах, падобна лучнікам і сякерычам жылі майстры, што выраблялі стрэлы і самі добра стралялі. У Пікачах і Піктушах славіліся ўмельцы, што рабілі вострыя пікі.

**ВАСІЛЬ ВІТКА**



**Дарагая "Зорка"!**

Пішуць табе вучні пятага і шостага класа з пачатковай школы ў Дубяжыне.

Мілая "Зорка", мы хочам табе расказаць пра ўрачыстасці, якія адбываліся ў нашай школе яшчэ ў траўні і чэрвені. Прайшло ўжо шмат часу ад гэтых святаў, але яны ўсё жывыя ў нашай памяці і мы хочам, каб і іншыя даведаліся аб іх.

29 траўня, у пятніцу, вучні нашай школы разам са сваімі Мамамі святкавалі "Дзень Маці", а на наступны дзень - "Дзень спорту і дзяцей". У пятніцу а 14 гадзіне да нас у школу прыйшлі дарагія госці - нашы Мамы. Мы прывіталі іх вершамі і песнямі, потым пачаставалі гарбатай і пірагом. Было вельмі весела. Нашы Мамы хоць на хвіліну маглі забыцца на штодзённыя турботы і цяжкасці! На наступны дзень у школу мы прыйшлі а 9 гадзіне. Спачатку мы глядзелі відэафільм. Потым праводзіліся розныя спартыўныя спаборніцтвы. Галодныя і зморапыя мы вярнуліся ў залу, дзе нас ужо чакаў пачастунак, падрыхтаваны нашымі Мамамі, учарашнімі імяніннiцамі. А потым нашы настаўнікі ўручалі нам падарункі. Да 3 гадзіны пасля абеду мы танцавалі. Дадому вярнуліся ўсе вясёлыя і задаволеныя.

Мы думаем, што добра вучыцца і адпачываць у такой школе, як наша! Усе мы тут - як адна вялікая сям'я. Бывае, што і сумуем, але разам і гуляем, цешымся.

Дарагая "Зорка", хочам табе яшчэ расказаць аб адной падзеі ў нашай школе. 5 чэрвеня да нас прыехалі аўтары з літаб'ядання "Белавежа" - Віктар Швед і Янка Целушэцкі. Мы раней ведалі іх толькі з іх зборнікаў, са старонак "Нівы" і "Зоркі". Вельмі спадабаліся нам смешныя вершы для дзяцей В. Шведа, апісанні прыроды і кароценькіх здарэнняў-імгненняў Я. Целушэцкага. Мы раней задумоўваліся, якім спосабам узнікаюць такія творы. Цёплы чэрвеньскі дзень даў адказ.

Доўгачаканых гасцей прывітала дырэктар школы, пані Надзея Аверчук і вучні старэйшых класаў, Яася Мартынюк і Войтэк Томчук. Аўтары расказалі нам пра сябе і свой творчы шлях, прачыталі некалькі сваіх твораў. Вучні мелі многа пытанняў да гасцей, а яны стараліся задаволіць нашу цікавасць. По-



тым пісьменнікі падпісалі нам свае зборнікі "Вясёлка" і "Імгненні" і ўпісаліся ў "Залатую кнігу" нашай школы. Мы вельмі рады гэтаму спатканню і чакаем наступных сустрэч з "белавежцамі"!

"Зорачка", пасылаем табе два здымкі. Будзем вельмі рады, калі ўбачым іх на тваіх старонках.

**Вучні пятага і шостага класа з пачатковай школы ў Дубяжыне.**



## НАДВОР'Е І НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Калі птушкі дружна ў вырай пацягнуліся - суровая зіма надыходзіць.

Вавёркі ўладкоўваюць гнёзды нізка - зіма марозная, а калі высока - з адлігамі.

Куры пачынаюць рана восенню ліняць - на хуткую, але мяккую зіму.

Пчолы шчыльна ляток канапацяць - зіма суровая і халодная абяцае быць.

## ЦІКАВАЕ ПРА ВЯДОМАЕ

Мухаморамі лечацца сарокі і хворыя ласі. Баравікі і чырвонагаловікі - любімая страва дзікоў. Мышы ядуць смаржкі, сыраежкі і бабкі. Вавёркі запасаюць толькі моцныя, найлепшыя грыбы.



## КНІГАЎКА

Добрая ў балотнай і вадзяной жыўнасці варта. Пільная, адважная. Не хаваецца і не ўцякае ад небяспекі, а кідаецца насустрач ёй і голасна, каб усе пачулі, дапытваецца, хто б ні завітаў: "Чый ты? Чый ты?" З дабром ідзеш - не пакрыўдзішся на чуйных кнігавак-вартаўніц. Намер злачысны затаіў - балотныя насельнікі ўжо ведаюць: блізка чужак, трэба хавацца.

З выраю кнігаўкі вяртаюцца ранняй вясною, калі на палетках і балотах яшчэ ляжаць першыя лапікі снегу. Гнёзды свае ладзяць проста на купінах, з леташніх сухіх травінак. Потым, як пацяплее, адкладваюць туды яйкі і старанна грэюць-выседжваюць іх, пакуль не праклюнуцца птушаняты. Кнігаўкі - клапатлівыя і смелыя бацькі. Я неаднойчы бачыў іхнія паветраныя бойкі з нахабнымі варонамі, ахвотніцамі да лёгкае спажывы. А вось бадзяжнага ці пастушковага сабаку, які ласы да птушынага мяса, кнігаўкі перамагаюць хітрасцю. Лятаюць блізенька, назаляюць яму, вымушаюць даганяць сябе. І ўсё далей адводзяць ад безабаронных птушанят.

Ад золку і да змяркання вартуе балота кнігаўка. Дагаджае птушынай грамадзе, перад якою калісьці вельмі правінілася. А было гэта, як сведчыць паданне, так...

Даўным-даўно надарылася на Беларусі надзвычай спякотлівае лета. З дня ў дзень няшчадна смажыла сонца, не сунімаўся, абпальваў усё жывое вецер-сухавей. Высахлі азёры, рэкі і крыніцы. Пабедавалі людзі, а потым сышліся дружнай талакой і выкапалі ў кожнай вёсцы па глыбокаму калодзежу - здабылі сцюдзёную ваду. А птахам і звярам лясным - хоць уцякай куды вочы глядзяць. Сабраліся яны на раду і таксама надумалі дакапацца да вады, каб наталіць нясцерпную смагу. Шчыра ўсе ўзяліся за работу. Адна кнігаўка адмовілася корпацца ў зямлі. "Мне, каб напіцца, - сказала яна, - хопіць і расінкі!" Моцна пакрыўдзіліся, раззлаваліся на кнігаўку птушкі і звяры. Напусціліся на гультайку: "Ты вады не прасіла! Дык ніколі не зможаш напіцца ні ў рэчцы бягучай, ні ў возеры стаячым, ні ў крыніцы празрыстай. А каб наталіць смагу, мусіш чакаць дажджу залівнога. Інакш ні табе, ні дзецям тваім не жыць на балоце!.."

Так і збылося. Дакапаліся птушкі і звяры да вады, зноўку вярнулі на Беларусь азёры, рэкі, крыніцы. Хапае ім цяпер вады. Адна кнігаўка ўсё ніяк не можа напіцца, лятае і крычыць: "Піць хачу! Піць хачу!.." Блізка да вады, а дзюбку намачыць не адважваецца. Баіцца, каб не прагналі з роднага балота. І ўдзень і ўночы слугуе птушынай грамадзе, вартуе яе ад ліхой бяды.

**УЛАДЗІМІР ЯГОЎДЗІК**

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Хачу табе расказаць, які сон мне прысніўся і што пасля ўсяго гэтага выйшла. Дык вось, у сакавіку прыйшла да мяне ў сне мая маці - нябожчыца. Бачыла я толькі яе малады твар, яна заўсёды мне такая сніцца, бо маладая памерла. I раптам бачу: не, гэта ж не твар маёй маці, а адна вялікая цыбуліна!

Прачнулася я з нейкім страхам. Пагаварылі з мужам. Ён кажа: "Мне, калі толькі маці ці бацька сняцца, заўсёды будзе нейкі клопат." А я яму на гэта: "Мо тое, што маці - было б яшчэ някепска, але ўжо тое, што замест твару маці зрабілася раптоўна горкая цыбуліна, мусіць абазначаць нешта нядобрае, нейкую горыч".

З прыкрай думкай, што здарыцца нешта кепскае, я паехала на працу. Нічога такога, аднак, там не здарылася, і а сёмай вечара я вярталася дахаты. Нейкі неспакой усё ж вярэдзіў душу.

Пад'ехала да гаража. Цёмна, хоць вока выкалі. Лямпачка выкручаная. Па маім целе прайшлі дрыжыкі. Маланкава я адчыніла гараж, уставіла туды самаход і таксама хутка выскачыла. Трэснула дзвярыма і ўлажыла вялізны ключ у замок. Той пракляты сон не выходзіў у мяне з галавы, і, замыкаючы, я наўкос глянула за сябе. За выступам убачыла кавалак мужчынскай постаці. Чакаў, праўдападобна, каб скочыць да мяне. Не перакручваючы ключ другі раз, я выхапіла яго з замка, мужчына накінуўся на мяне, а я пачала лупіць яго гэтым ключыскам.

Не спадзеючыся атакі з майго боку, ён ад нечаканасці і болю засланіў твар рукамі. А я біла яго з усяе сілы па носе, па вачах, па чым папала. На нейкі момант бандыт адбегся, але калі боль мінуў, ён падскочыў да мяне і зноў і пачаў вырываць у мяне з рук мае сумкі. Ведаў ужо маю "зброю".

Нічога не заставалася мне рабіць, як толькі клікаць дапамогі. I я пачала крычаць: "Ратунку!" Здалёк надбягаў дазорца. Бандыт, убачыўшы яго, сунуў мне два кулакі ў нос і ўцёк.

Пэўна, быў гэта злодзей-аматар. Але мушу сказаць, што каб не той сон, які папярэдзіў мяне, узмоцніў маю чуйнасць, мая сумачка магла б павандраваць у яго брудныя лапы.

Веру ў сны!

Агата

**Zażyczyłeś sobie powrotu do zdrowia? Napisz na adres:**

**FAUN**
**83-000 Pruszcz Gdański skrytka 58.**

**Gwarantuję ci co najmniej poprawę stanu twych parametrów zdrowotnych.**

## АДГАЛОСКІ

### „ЧАС ШАКАЛАЎ" МІРАНОВІЧА

Спадар Яўген Міранові даў акуратную назву ў сваім артыкуле „Час шакалаў" („Ніва", н-р 37) таму, што Польшчай правяць шакалы на дзвюх нагах; людзі былой наменклатуры і круцялі, якія дарваліся да карыта і прыкрываюцца „Салідарнасцю". Хочацца мне толькі дадаць, што сапраўдныя шакалы — драпежнікі на чатырох лапах, намнога менш небяспечныя, ад тых, у якіх чалавечы воблік і прываблівы выгляд, ад тых, што намі хочуць правіць. Звяры-шакалы (у нас яны не жывуць) толькі ачышчаюць асяроддзе ад рознай падлы, ну і невялікі ўжо грэх, калі выграбуць нешта з-пад зямлі... Гэта ўжо прырода і яе законы.

Гэта праўда, што большасць камуністычных лідэраў амаль вокамгненна пераўтварылася ў нацыяналістаў, і гэта ўжо адкрыта.

Я сам быў у партыі 20 гадоў, дык наслухаўся гэтага ўсяго — нянавісці і пагарды да іншых.

Усе яны эгаісты і толькі сёння хочуць зрабіць з сябе святых мучанікаў, хаця павырабляді сабе немалыя пенсіі і сядзяць на печы.

МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК

### ГІСТОРЫКІ-КРУЦЯЛІ

Ці гісторык, каб высветліць складаныя праблемы нядаўняга мінулага паміж Польшчай і былым Савецкім Саюзам, мусіць вярцець фактамі? Сапраўдны гісторык павінен вышукоўваць і гуртаваць гістарычныя факты такімі, якімі яны ёсць, а не прадузята гарэць з нянавісцю да іншых народаў і справу каментаваць у такі спосаб, каб варожа настаўляць свой народ супраць іншага.

Нядаўна, 7 верасня г.г., зноў давялося мне глядзець кінахроніку ў польскім тэлебачанні. Гэтым разам дэманстравалася савецкая хроніка, якая паказвала момант вызвалення польскіх гарадоў Холма і Любліна, як сказаў савецкі каментатар. У кінахроніцы ля гармат і кулямётаў увіхаліся савецкія воіны, каб хутчэй выгнаць з гэтых гарадоў ворага. Гінулі яны, кошаныя, быццам калоссе жыта, мучыліся ад ранаў. Народ сустракаў вызваліцеляў, цалаваў іх, плачучы і абкідваючы кветкамі. І гэта была найпраўдзівейшая праўда. Паказана было таксама, як савецкія салдаты бралі ў палон немцаў, як узялі Люблінскі замак, дзе немцы вымардавалі 700 чалавек.

Пасля хронікі адбылася ў студыі кароткая дыскусія, у якой тры, з Божай ласкі, гісторыкі, ні словам не заікнуліся аб тадышніх сапраўдных падзеях вакол Холма і Любліна, а пачалі (пад дыктоўку жанчыны, якая пастраляла б усіх „рускіх") гаварыць аб тым, што ў кадрах бачыліся амерыканскія танкі, здагадвацца, дзе быў пісаны Маніфест ПКВН, ды чаму сфармаваўся новы польскі ўрад, калі ў Лондане быў стары (?!).

Чарговы раз сустракаюся я з такой перфідыяй гісторыкаў, якія імкнуліся ашукаць гледача, перад усім з былых межаў СССР. Мы ўсе ведаем, нават дзеці, што ў час II сусветнай вайны Амерыка памагала Савецкаму Саюзу не толькі тэхнікай (ваеннай), але і кансервамі. І ніхто гэтага ніколі не скрываў. Але ці тыя гісторыкі, якія сядзелі ў студыі ведаюць, колькі савецкага золата і дарагіх каменняў амерыканцы за гэта ўзялі? Перфідыя заключаецца ў тым (мова аб тых, што паказваюць і каментуюць кінахронікі), што глядзяць яны нам у вочы і адначасна робяць з нас вар'ятаў.

ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК

## КУХОННЫЯ ПАРАДЫ

### БАРАНІНА З КАПУСТАЙ І ФАСОЛЯЙ

На паўкілаграма бараніны з костачкай трэба ўзяць 1 кг цукровай капусты, 0,25 кг цыбулі, 5 зубкоў часнаку, 0,25 кг сухой фасолі, 5 дэкаў тлушчу, 1 шклянку памідорнага перацёру, соль, перац, папрыку ў парашку, 6 лыжак пасечанай зялёнай пятрушкі.

Фасолю перабраць, спаласнуць, заліць халоднай кіпячонай вадой і пакінуць так да наступнага дня. Зварыць у той жа вадзе, у якой была намочана.

Мяса памыць, выразаць косць і выкарыстаць іх для супу. Мяккае мяса нарэзаць дробнымі палоскамі. Цыбулю абабраць, дробна нарэзаць і разам з мясам крыху падсмажыць на тлушчы. Пералажыць у вялікую каструлю, даліць гарачай вады, тушыць пад пакрыўкай на невялікім агні.

З капусты зняць старэйшае лісце, памыць яе, не шаткаваць, а нарэзаць большымі кавалкамі, дадаць да мяса, якое тушыцца, пасаліць, дадаць крыху перцу, стушыць. У першай фазе капусту трэба тушыць у адкрытай каструльцы, мінут праз пятнаццаць каструльку накрыць.

Стушаную капусту з мясам перамяшаць са зваранай фасоляй і дробна пасечаным часнаком, дадаць таматны перацёр, закіпяціць, запраўіць па смаку соллю, папрыкай і перцам.

Гатовую страву пералажыць на талерку, пасыпаць дробна пасечанай зялёнай пятрушкі.

Падаваць з варанай бульбай.

ГАСПАДЫНЯ

## РАЗЕТКА НА "Ш"

**Управа:** 1/ фокус, мудрагелісты ўчынак, 2/ жалезны стрыжань, 3/ складаны трыножак, на якім устанаўліваецца апарат, 4/ тонкая, моцная вяроўка, як фігура ў гімнастыцы, 5/ не заўсёды яна варта вырабу, 6/ валасяное покрыва жывёл, 7/ гусіны тлушч, 8/ спартыўнае прыстасаванне, якое ахоўвае нейкую частку цела іграка ад удараў.

**Улева:** 1/ невялікі кінжал з тонкім трохгранным лязом, 2/ вяровачка, 3/ прыстасаванне са шчаціннем для чысткі, змятання і шаравання, 4/ від абутку /шлёпанец/ або сорт бобу, 5/ прагулка на свежым паветры, 6/ драпежная рыба нашых рэк, 7/ падобны на вельвет, 9/ калі яно ёсць, дык лепш не трэба.

**ядань**




Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 34 н-ра. Упоперак:** караван, абабак, памідор, арабка, разгляд, Аксана, агніца, гандола, кладка, рэалізм, квакша, курсант. **Уніз:** капірка, рамазан, відэлец, нарада, баланс, балкон, кентаўр, аколіца, абармот, галава, індэкс, агарак.

**Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць:** Барбара Гура з Любліна і Аляксандр Дабчынскі з Беластока.




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel.210-33.
Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Мірослава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міранові (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Яланта Панфілюк (карэктар), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

**Prenumerata.**
1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1993 r. upływa 20 listopada 1992 r.
2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 32 500 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 3500 zł., a kwartalnie - 45.500 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

## МАКАТРАЗМЫ

**РЫНАК**

- Шокатэрапія? Для дужых.
Рынак шалее бравадай.
- Што ж для мяне, мой дружа?
- Тавар дэфіцытны - спагада.

**ПАВАДЫРАМ**

Адпусціў павады -
Чакай бяды.

**СІДАР МАКАЦЁР**

## ЗАГАВАРЫЛА

Закахаўся я ў Арыну,
Яна з нашага сяла.
Што ж, дзяўчына як дзяўчына,
Ды маўкліваю была.

Ну, зусім негаваркая.
Што скажу - яна кіўне
І маўчыць сабе. Такая
Жонка сама што па мне.

Чырванела без прычыны...
Людцы, верыце ці не? -
Думаў - вось гэта дзяўчына,
Прываліла шчасце мне.

Праўда, крышачку баяўся:
З маўчуном век каратаць...
Ды дарэмна. Пасля ЗАГСа
Ўжо Арыну не пазнаць.

От гаворыць дык гаворыць -
Дом аж ходзіць хадуном.
Памяняліся на ролі,
Я цяпер стаў маўчуном.

**УЛАДЗІМІР ЗАХАРЭВІЧ**




*Мал. М. Малышава*

## НІЎКА



*– У яго свой погляд на падзеі.*

**Мал. М. Пргеля**

З жыцця ўзятае

## ПАСЛЯШЛЮБНАЯ НОЧ

Было гэта пад канец дваццатых гадоў нашага стагоддзя. Вясковая прыгажуня Стэфка выйшла замуж за Міхася. Дзяўчына была здаровая, бадзёрая і энергічная і ведала, чаму выходзяць замуж і што такое пасляшлюбная ноч. А Міхась, наадварот, быў нясмелы, марудны і бездапаможны, такі, як у народзе кажуць, "пад'еў і ў хлеў". Мінулі дзесяцігоддзі, але Стэфцы пасляшлюбная ноч запомнілася на ўсё жыццё. Так аб гэтай падзеі расказвала яна сваёй сяброўцы:

"Ведаеш, дарагая Манечка, вяселле наша было, як на той час, даволі багатае. Было што есці і піць, музыкі гралі "ад вуха да вуха". Але як усё, што добрае, канчаецца, так і хутка закончылася вяселле. Позняй ноччу мы ўдваіх, гэта значыць я з мужам Міхасём, пайшлі спаць. Патушылі газавую лямпу і сталі раздзявацца. Я хуценька скінула з сябе вопратку, улезла пад коўдру і чакаю. Праз нейкі час раздзеўся Міхась і лёг пры мне. Ляжыць ён і цяжка сапе, раней наеўшыся ўсякай смакаты. Пачакаўшы нейкі час я яго штурхіць у бок:

- Міхась, ты спіш?

- Не, не сплю, - адказаў Міхась, павярнуўшыся на другі бок і сапучы далей.

Тады я не вытрымала, штурханула яго моцна локцем у плечы і амаль закрычала:

- Міхась, спіш?

- Кажу, што не сплю! - пацвердзіў муж.

- Тады частуй чым маеш, - гавару я яму.

І ведаеш, дарагая Манечка, мой Міхась устаў з ложка і, сапучы, чагосьці шворыўся ў сваіх нагавіцах, якія ляжалі на лаве. Потым прыйшоў да мяне ў ложак і нешта сунуў мне ў руку. Я памацала і пазнала, што гэта была цукерка. Амаль кроў мяне не заліла і са злосцю сказала я яму:

- Ах ты, разява, мяшок сапучы! Каб цябе халера ўзяла! К чорту з такім мужчынам! То я дваццаць гадоў чакала гэтай ночы, а ты мне цукерку тычаш?!! Думаеш, што я на сваім жыцці цукеркі не бачыла?!!

Вось такая мая пашлюбная ноч была" - смеючыся, закончыла сваю аповесць Стэфка.

**УЛАДЗІМІР ЦІЛЮЛЬКА**

**МІЖ НАМІ КАЖУЧЫ**

* Сямейная драма пачынаецца з непрышытай вешалкі.
* Што б ні выкінула мода, мы ўсё падхопім.
* Не варажыце на рамонках - прырода гэтага не любіць.

**В. Варанцоў**

## АНЕКДОТЫ

Лекар: На што скардзіцеся?

Шавец: Ды на ўсё. Язык зрабіўся, як падэшва, у горле, быццам бы хтосьці цвікі пазабіваў, у жываце, як бы дратваю сцягнута, вочы нібы клеем заліты, у вушах, быццам шылам коле, а самога, як бы на капыл хтосьці нацягнуў.

* * *

- Антон, чаго задумаўся?
- Жаніцца хачу.
- Ну, дык хадзі, пойдзем у сваты.
- Дзяўчыны не маю.
- Хадзі, завяду цябе да свае суседкі...
- Брыдкая, не хачу.
- То хадзі да нашай настаўніцы.
- Сэрца слабое маю - саромлюся.
- Ну, дык пойдзем у горад.
- Там дзяўчаты пахварбаваны. Як жа да такой прытуліцца?
- Ну, дык з кім жа цябе ажаніць?
- Не, ведаю...
- Гады ўцякаюць!
- Я аб гэтым думаю.
- Старым кавалерам будзеш.
- Не вытрымаю.

* * *

Прыйшоў аднойчы Кастусь з работы і адразу ж за стол - абедаць.

Падала жонка міску баршчу. А ён яшчэ не паспеў і лыжкі да рота паднесці, як ужо крычыць:

- Зноў перасаліла.

Схапіў ён міску і праз акно шпурнуў так, каб суседзі бачылі.

Жонка, доўга не думаючы, за гаршчок з кашаю - і ўслед за міскаю.

- Ты што? Блёкату наелася?! - ачмурэў Кастусь.

- Гледзячы хто, - адказала жонка. - Я падумала, што ты і кашу на двары будзеш есці.

* * *

Начальнік аддзела кадраў падбірае дзяўчат на пасаду сакратаркі дырэктара. Ён адкідае адну кандыдатку за другой. Урэшце з'яўляецца дзяўчына, якая кажа яму:

- Калі вы прымеце мяне, дык не будзеце гэтага шкадаваць. Я павышу вам зарплату, як толькі выйду замуж за дырэктара!

* * *

На скачках нечакана выйграў зусім невядомы конь. Журналісты адшукалі шчаслівага гаспадара і засыпалі яго пытаннямі. Гаспадар сказаў, што каню ўжо пяць гадоў.

- Чаму ж вы раней не давалі выступіць вашаму каню?

- Я не мог яго злавіць.

* * *

Суддзя: Значыць, вы ўкралі не толькі грошы, але і каштоўнасці?

Падсудны: Так. Мая маці вучыла мяне ў дзяцінстве, што не ў адных грошах шчасце.

Падборку зрабіў
**ЯСЕНЬ**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Мо каму і смешным гэта здасца, але не мне. Я вельмі непакоюся за лёс свайго сына. Зразумей, я яго выхавала адна! Муж мой кінуў нас, калі сын быў яшчэ маленькі. І хлопец выкачаўся на маіх руках. Бо і маці мая памерла, калі сынку майму два годзікі было ўсяго. Бацька заняўся новай, маладой жонкай, і нават слова добрага не было каму сказаць.

Сын мой — гэта для мяне ўсё. Сёння ён ужо вучыцца ў тэхнікуме, вырас і стаў прыгажуном. Выглядае сталейшы, не на свае 16 гадоў. Дзяўчаты проста ліпнуць да яго. Вядома, круцяцца каля яго найпрыгажэйшыя дзяўчынкі, з пафарбаванымі валасамі і доўгімі пазногцямі. Што горшае, і яны яму падабаюцца, менавіта такія — задбаныя і добра апранутыя.

Мушу прызнацца, што мяне гэтыя дзяўчаткі проста раздражняюць. Я яму звяртаю ўвагу, а ён злуецца. Кажа: „Ты ненавідзіш маіх знаёмых!" А я ж, дальбог, не маю нічога да іх. Але баюся аднаго: каб такая не трапілася майму сыну на жонку. Бо тады можа я і зненавіджу сваю нявестку.

На маю думку, такая жонка не дасць шчасця майму сыну. Мы ўсё жыццё стараліся ашчаджаць як маглі. На нікога разлічваць нельга было. Я працавала шмат, бо і аліменты былі надта скупыя. Сын хадзіў у палатаных портках, у неданошаных іншымі дзецьмі кашульках. Было вельмі цяжка, але сына мне ўдалося вырасціць на чалавека.

Ну, а возьме ён, скажам, такую прыгажуню. Дык жа захоча яна невядома чаго. Як жа ён ёй дагодзіць?! У нас вялікіх грошай няма. Толькі вось адна яго прыгажосць, ды і то праз яе можа мець праблемы.

А яму поспех у дзяўчат імпануе. Хоча падабацца. Апранаецца не абы-як, а вельмі старанна, прычосачка заўсёды ў парадку, стаіць перад люстэркам. Баюся, каб не зайшоў ён з гэтым усім у тупік.

На маю думку, дзяўчына для яго павінна быць, не скажу каб гаротная, але скромная і са звычайнага дому. Каб была разумная і не думала пра гулянку, а пра вучобу. Мо тады яны ў жыцці нечага дасягнуць. Ці маю я рацыю?

**Галіна**

Шаноўная Галіна! Пра такую нявестку, як ты марыш, марыць, бадай, большасць маці. Ты забылася дадаць, што добра было б яшчэ, каб была яна працавітая, даглядала твайго каханага сына, як ты яго даглядала, каб была закаханая ў яго і ні на каго не глянула, добра зарабляла ў будучыні, а пры гэтым мыла і чысціла ўсё ў хаце да бляску.

Прыгожая дзяўчына таксама можа мець нешта ў галаве. Не абавязкова мусіць быць брыда. Такая часамі можа быць лепшай жонкай, чым брыдкая як ноч, якой ў галаве перавярнулася ад радасці, што звярнуў на яе ўвагу прыгожы хлопец, і ўявіла яна сябе прынцэсай. А з прынцэсамі ведаеш як бывае: часамі дык і падыйсці страшна. А што ўжо гаварыць пра адносіны да свякрухі!

Добра раіш сыну, але няхай выбірае сам.

**СЭРЦАЙКА**

© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016